

"Каб усе былі адно" (Ян 17, 21)

# Царква

№ 4 (19), 1998 РАСТВО ХРЫСТОВА

## Хрыстос родзіцца – слаўце Яго!

*Трапар (тон 4)*

Нараджэнне Тваё, Хрысце Божа наш, заззяла на ўвесь свет святлом пазнання. І вось тыя, што зоркам служылі, ад зоркі навучыліся пакланяцца Табе, Сонцу справядлівасці, і зразумелі, што Ты – Світанне з вышыняў. Госпадзе, слава Табе!

*Кандак (тон 3)*

Дзева сёння родзіць Надпрыроднага, і зямля пячору Недаступнаму прыносіць; анёлы з пастушкамі ў песнях Яго славяць, мудрацы з зоркаю падарожнічаюць. Дзеля нас нарадзілася Дзіцятка малое, спрадвечны Бог.

*Задастойнік*

Узвялічвай, душа мая, больш годную і слаўную за анельскія хоры Дзеву ўсячыстую Багародзіцу.

Дзіўную і слаўную бачу тайну: пячора – неба, Дзева – пасад херувімскі, яслі – жыллё, дзе змясціўся незмяшчальны Хрыстос, якога мы ў песнях славім.



## Юбілей 20-годдзя Пантыфікату Яна Паўла II

16 кастрычніка 1998 году ўся Каталіцкая Царква адзначала 20-годдзе абрання Святога Айца Яна Паўла II на пасад святога Пятра. З гэтай нагоды ў Рым з Беларусі прыбыла шматлікая пілігрымка вернікаў (каля 1000 асобаў). Сярод пілігрымаў была таксама група грэка-католікаў.

17 кастрычніка беларускія пілігрымы былі прынятыя Святым Айцом Янам Паўлам II на спецыяльнай аўдыенцыі. Ад імя ўсіх вернікаў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей (Гаек) перадаў цёплыя пажаданні Святому Айцу.



*Рым, 17.10.98. Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей (Гаек) віншуе Святога Айца Яна Паўла II з 20-гадовым Юбілеем Пантыфікату*

***Жадаю вашаму Краю ўсяго добрага, а перад усім, паспяховага духоўнага і матэрыяльнага развіцця. Няхай усе жыхары вашай зямлі чуюцца шчаслівымі. Супольна будуйце ваш сённяшні дзень і вашу будучыню.***

*Ян Павел II, Слова да пілігрымаў з Беларусі 17.X.1998*



# Слова
## Апостальскага візітатара для грэка-католікаў Беларусі на Раство Хрыстова 1998 году



*Хрыстос родзіцца — слаўце Яго,*
*Хрыстос выходзіць з нябёсаў — сустракайце Яго,*
*Хрыстос на зямлі — цешцеся!*
*Спявай Госпаду, уся зямля,*
*людзі, радасна вітайце Яго,*
*бо Ён праславіўся.*

*(канон Раства Хрыстова, песня 1)*

*Вялебныя Айцы: Святары і Дыяканы!*
*Любыя ў Госпадзе Семінарысты, Манахі і Манашкі!*
*Дарагія Браты і Сёстры! Дарагія Сябры!*

1 Вось жа з радасцю святкуем мы Нараджэнне Ісуса Хрыста. Гэтае Нараджэнне «заззяла на ўвесь свет святлом пазнання». Вось Спрадвечны Сын Божы стаўся чалавекам і пасяліўся сярод нас. Ён прыносіць нам Добрую Навіну пра тое, што Бог ёсць нашым Айцом.

Яго Святасць Папа Ян Павел II нагадвае нам у новай энцыкліцы «Вера і розум» *(Fides et ratio)*, што «праз Хрыста — Уцелаўлёнае Слова, у Духу Святым людзі маюць доступ да Айца і становяцца ўдзельнікамі Боскае прыроды» *(Энцыкліка «Вера і розум», 7)*.

Свята Божага Нараджэння ёсць тым часам, у які мы павінны адкрыць і супольна асэнсаваць праўду пра тое, што Бог ёсць нашым Айцом, а ўсе людзі, як дзеці аднаго Айца, з'яўляюцца нашымі братамі. Гэтая праўда заахвочвае працаваць над духоўным адраджэннем нашай Айчыны ў перспектыве праўды пра Бога — нашага агульнага Айца.

2 Нараджэнне Ісуса Хрыста — гэта прыход на гэты свет праўдзівага Святла. «Было Святло праўдзівае, Якое прасвятляе ўсякага чалавека, прыходзячы ў свет... і свет Яго не пазнаў» *(Ян 1, 9-10)*.

Тыя, што не прынялі Ісуса Хрыста — Святло свету — засталіся ў цемры. У гэтым свеце не бракуе цемры і змроку. Як хрысціяне мы пакліканы да нясення святла Евангелля і складання цяжкага сведчання пра Ісуса Хрыста.

Царкоўны каляндар часоў Божага Нараджэння нагадвае нам пра сведчанне першых мучанікаў-немаўлят, забітых Ірадам (29 снежня), і пра сведчанне першамучаніка архідыякана Стэфана (27 снежня). Так пачыналася гісторыя Царквы, і была яна заўжды пазначаная сведчаннем мучанікаў. Гэтак было і ў XX стагоддзі. Святы Айцец Ян Павел II шматразова нагадваў пра каштоўнасць сведчання волатаў веры і мучанікаў XX стагоддзя для духоўнага адраджэння Царквы сёння.

Каб паглыбіць памяць і асэнсаваць каштоўнасць сведчання волатаў веры Усходніх Каталіцкіх Цэркваў у цяжкі час дваццатага стагоддзя, Кангрэгацыя Усходніх Цэркваў арганізавала ў Рыме ў кастрычніку 1998 году міжнародны сімпозіум на тэму «Усходнія Каталіцкія Цэрквы Еўропы ў іхняй гісторыі веры і пакутаў у дваццатым стагоддзі». У сімпозіуме ўдзельнічалі ерархі і гісторыкі Усходніх Каталіцкіх Цэркваў Цэнтральнае, Паўднёвае і Усходняе Еўропы, ад Албаніі і Македоніі да Беларусі і грэка-каталіцкай дыяспары ў былым Савецкім Саюзе. Беларускіх грэка-католікаў прадстаўляў я і адзін гісторык нашае Царквы.

На гэтым важным міжнародным форуме ўпершыню прагучалі імёны беларускіх пакутнікаў: архімандрыта Фабіяна Абрантовіча, экзарха Антона Неманцэвіча, архімандрыта Андрэя Цікоты, а таксама айцоў Язэпа Белагаловага, Адама Станкевіча і яшчэ іншых. Усе яны былі сапраўднымі сведкамі Ісуса Хрыста і вялікімі патрыётамі.

Гістарычныя даследаванні, зробленыя ў рамках падрыхтоўкі да сімпозіуму, дазволілі бачыць неперарыўнасць жыцця Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі ад часоў яе гвалтоўнай ліквідацыі ў мінулым стагоддзі аж да сённяшніх дзён. Нават калі не існавалі царкоўныя структуры, існавалі вызнаўцы і пакутнікі.

Напярэдадні Трэцяга Тысячагоддзя Святы Айцец Ян Павел II нагадвае нам: «Сведчанне, дадзенае Хрысту аж да праліцця крыві, сталася сумеснай спадчынай як католікаў, так і праваслаўных, англіканаў ды пратэстантаў... І пра гэта сведчанне нельга забыць». *(Апостальскае пасланне «Трэцяе Тысячагоддзе», 37)*.

Над гэтым сведчаннем веры шматлікіх вернікаў у час камуністычнага пераследу мы разважаем у малітве і хочам яе прыняць як каштоўную духоўную спадчыну для жыцця нашае Царквы. Дай Божа, каб гэтая спадчына была крыніцай сілы для нашага сведчання пра Ісуса Хрыста ў наш складаны час.

3 Свята Божага Нараджэння ўводзіць нас у Новы Год. На парозе 1999 году мы хочам у малітоўным роздуме ўзгадаць таксама найважнейшыя падзеі мінаючага году.

Вельмі важнай падзеяй 1998 году быў Юбілей 20-годдзя абрання Яго Святасці Папы Яна Паўла II на пасад святога Пятра. Галоўныя ўрачыстасці адбыліся ў Рыме 18 кастрычніка. З гэтай нагоды ў Рым з Беларусі прыбыла шматлікая пілігрымка вернікаў. Сярод пілігрымаў лацінскага абраду была таксама група грэка-католікаў. 17 кастрычніка мы былі прынятыя Святым Айцом Янам Паўлам II на спецыяльнай аўдыенцыі, падчас якой я перадаў Яго Святасці цёплыя пажаданні ад імя ўсіх вернікаў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.

Сярод многіх падзеяў мінулага году мы прагнем яшчэ раз узгадаць 50-гадовы Юбілей айца протапрасвітара Яна Матусевіча — кіраўніка Дэканату Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, які мы святкавалі 27 чэрвеня ў Менску. Як вядома, айцец Ян адышоў ад нас 2 верасня. Ягоную душу даручаем вашым малітвам.

Узгадваем таксама 40-годдзе святарскіх свячанняў мітрафорнага протаерэя Айца Аляксандра Надсана, Апостальскага візітатара для беларусаў замежжа, якое мы адзначалі 22 лістапада ў Менску.

Просім Госпада Царквы, каб у Новым Годзе Ён агарнуў нас усіх Сваёй апекай.

4 Браты і Сёстры! 1999 год будзе для нас часам непасрэднай падрыхтоўкі да Вялікага Юбілею 2000 году. У гэтым кантэксце мы павінны памятаць, што ўсе мы пакліканы, каб на парозе Трэцяга Тысячагоддзя абвяшчаць Добрую Навіну шырокаму колу людзей. Вельмі важную дапамогу ў гэтай евангелізацыйнай працы аказваюць нам газета «Царква» (у Берасці) і выдавецтва «Сафія» (у Полацку). Мы глыбока ўдзячныя ўсім супрацоўнікам гэтых выдавецкіх цэнтраў.

Таксама хочацца сказаць шчыры дзякуй Беларускай рэдакцыі Радыё Ватыкан, яе кіраўніку — айцу Клаўдзію і ўсім працаўнікам. Дзякуем ім за стойкае абвяшчэнне Слова Божага ў роднай мове.

З нагоды свята Нараджэння Гасподняга прагнем выказаць таксама сардэчныя віншаванні і словы ўдзячнасці ўсім Сябрам нашай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы за разнастайныя формы аказанай нам салідарнасці. Яна з'яўляецца для нас вялікай падтрымкай у нашай евангелізацыйнай працы.

Будзем жа пра іх памятаць, асабліва ў дні малітваў за дабрадзеяў нашай Царквы: 25 снежня 1998 году, 2 лютага і 15 жніўня 1999 году.

Нашыя святочныя прывітанні шлем таксама ўсім вернікам нашае Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, асабліва тым вернікам, што жывуць у дыяспары і не часта могуць радавацца літургічнай супольнасцю братоў і сёстраў у веры. Святы Раства Хрыстовага і Новы Год хай будуць для нас усіх часам духоўнай лучнасці і ўзаемнай малітвы за сябе. У гэты святочны час мы застаемся асабліва салідарныя з вамі.

У духу паклонімся Нованароджанаму Збавіцелю свету і молімся за ўсіх хрысціянаў у Беларусі:

*Блаславі, Госпадзе,*
*круг Новага Году ў дабрыні Тваёй,*
*дай супакой, моцную і шчырую любоў,*
*парадак ва ўсім і дабрадзейнае жыццё.*

Блаславенне Гасподняе хай будзе на ўсіх вас, ласкаю Яго і чалавекалюбствам на ўсе часы, цяпер і заўсёды і на вякі вякоў. Амін.

+ архім. Сергей Гаек **Архімандрыт Сяргей (Гаек)**

*Ватыкан — Менск, Раства Хрыстова 1998 год*

# Чаму мы не разам славім Госпада?

Не шмат ёсць святароў, якім людзі не задавалі б пытанне: «Бог — адзін, Хрыстос — адзін, чаму ж тады так шмат канфесіяў, а часам гэтыя хрысціянскія канфесіі яшчэ і варагуюць між сабой?»

У мяне на гэтае пытанне даўно сфармаваўся свой адказ: Царква Хрыстова раздзялілася па той прычыне, што большая частка людзей, якія фармальна называюцца хрысціянамі, на самай справе ў жыцці імі так і не сталі. І, вядома ж, раздзяліўся не Бог, не Хрыстос. Падзяліліся царкоўныя арганізацыі, да таго ж не праз багаслоўскія рознагалоссі, а з прычыны адсутнасці сапраўднае любові, прагнення ўлады і нежадання разумець і чуць адзін аднаго.

30 лістапада грэка-каталіцкая грамада ў Берасці, парахам якой я з'яўляюся, адзначае сваё парафіяльнае свята — Дзень памяці святых братоў апосталаў Пятра і Андрэя. Гэтая невялічкая парафія, як і іншыя грэка-каталіцкія грамады, пайднала людзей, для якіх раскол хрысціянскага свету з'яўляецца асабістай трагедыяй. Яны абралі мэтаю свайго жыцця зрабіць усё ад іх залежнае, каб хоць трошкі наблізіць той час, калі стане магчымае ўз'яднанне хрысціянства вакол свайго адзінага законнага Пастыра — Ісуса Хрыста.

Ва ўсе часы ў хрысціянскім свеце былі рознага кшталту праблемы — як глабальныя, так і дробныя, мясцовыя. Але самая разбуральная праблема — гэта нашая раз'яднанасць. Палітычныя лідары, спекулюючы часам на рэлігійных ідэях, імкнуцца падпарадкаваць сабе Царкву. Альбо яшчэ горш — стварыць новую, пад сябе. Ці іншы варыянт — адарваць ад адзінай Царквы нейкую аўтакефальную частку, называючы яе царквой нацыянальнай, народнай. Гэтыя лідары настолькі далёкія ад Хрыста, што іх ідэі ім здаюцца лагічнымі. Яны памылкова лічаць, што нацыянальная Царква — гэта адасобленасць ад іншых. Бывае, на жаль, за такімі лідарамі ідуць даверлівыя людзі.

Царква будзе нацыянальнай у добрым сэнсе гэтага слова толькі тады, калі большая частка нацыі прыме Бога і Хрыста як свайго Збаўціеля і Пастыра, калі яе вернікі будуць шукаць ісціну не ў раздзяленні і адасобленасці, а ў еднасці ў Хрысце. Толькі тады яна стане сумленнем народа і яе духоўным павадыром. Хто скажа, што Грэка-Каталіцкая Царква на Украіне ці Каталіцкая Царква ў Польшчы не нацыянальная? Яны трымаюцца розных культурных і абрадавых традыцыяў, але пры гэтым з'яўляюцца неад'емнай часткай Адзінай Паўсюднай Каталіцкай Царквы!

Гісторыя катаклізмаў і трагедыяў чалавецтва — гэта гісторыя адыходу людзей ад Бога. Няцяжка заўважыць, што сусветную гісторыю можна лёгка спраектаваць на гісторыю Царквы. Таму трэба памятаць, каб не памяняць каштоўнасці месцамі,— напачатку заўжды Бог, імкненне людзей і ўсяго народу да Бога. Калі гэта будзе, Бог стане Пастырам свайму народу, адродзіць яго і духоўна, і культурна, і матэрыяльна, ён дасць свабоду і незалежнасць. Тады, калі народ пацягнецца да свайго Айца нябеснага, Бог прывядзе народ і да адзінай сваёй Царквы.

Ікона з выявай святых братоў апосталаў Пятра і Андрэя была падаравана Канстанцінопальскім Патрыярхам Атэнагорам Рымскаму Архірэю Паўлу VI у 1964 годзе падчас сустрэчы ў Ерусаліме як знак прымірэння пасля многіх стагоддзяў варожасці і ўзаемнай непрыязні. Тады абодва ерархі знялі адзін з аднаго пакрытыя пылам стагоддзяў праклёны, зрабілі рашучы крок на шляху да паяднання.

У дзень памяці святых братоў апосталаў — першаверхоўнага Пятра, апекуна Рымскай Царквы, і Андрэя, асветніка і апекуна Усходніх Цэркваў і славянскіх народаў,— звернемся да іх з малітваю:

*Святыя браты апосталы Пятро і Андрэй, маліце Хрыста Бога нашага, каб быць нам у адзінстве так, як і вы адзіныя ў Ім, на славу Госпада нашага Ісуса Хрыста.*

*Святога Пятра, дабравесніка Рыму, і брата яго Андрэя, дабравесніка зямлі славянскае, не для варожасці прызваў Госпад, а каб кожную душу жывую прывесці да Бога. І таму звяртаемся да вас, святыя браты апосталы, маліце Бога за нас грэшных, каб прывесці нас да еднасці ў Ім.*

Гэта ёсць словы з трапара і кандака, якія спяваюцца падчас нашых набажэнстваў. Зробім жа так, каб гэтыя святыя словы пра еднасць узносіла ўсё большая колькасць тых, хто бачыць збаўленне ў Хрысце.

Няхай Новы 1999 год, III год падрыхтоўкі да Вялікага Юбілею 2000 году, які прысвечаны разважанням пра Бога-Айца, станецца для нас усіх часам глыбокага роздуму, шчырай малітвы і пошуку сапраўднага Бога ды сапраўднае еднасці ў Хрысце!

Браты і сёстры! Папросім наймілацівага Бога аб дапамозе, каб правільна зразумець, што ёсць для нас Бог. А Ён ёсць і мэта, і ісціна, і шлях. Амін.

*Галоўны рэдактар газеты «Царква»*
*святар* **Ігар Кандрацьеў**

# Шчыра віншуем!

З нагоды 40-годдзя святарства ў Менску з 22 лістапада на працягу тыдня знаходзіўся Апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў у замежжы айцец мітрат Аляксандр Надсан. У касцёле св. Роха на Залатой Горцы пры вялікай колькасці вернікаў абодвух абрадаў ён адслужыў падзячную Літургію.





На здымках: падчас набажэнства ў капліцы Маці Божай Нястомнай Дапамогі

Фота Дзяніса Раманюка

## 40 гадоў святарства айца Аляксандра Надсана

# Не нам, не нам, Госпадзе...

*(Нататкі з III-яй канферэнцыі Біблійнага Таварыства Рэспублікі Беларусь)*

26 верасня ў Менску адбылася чарговая канферэнцыя Беларускага Біблійнага Таварыства, адным з заснавальнікаў якога таксама з'яўляецца і наша Царква. Таварыства было заснавана ў 1992 г. з мэтаю распаўсюджвання і папулярызацыі Святога Пісання, а таксама для перакладу Бібліі на беларускую мову. Управа — кіраўнічы орган Таварыства — аб'ядноўвае прадстаўнікоў розных хрысціянскіх канфесіяў: праваслаўных, католікаў абодвух абрадаў, баптыстаў, пяцідзясятнікаў, адвентыстаў сёмага дня. З 1996 г. яно ўваходзіць у склад Аб'яднаных Біблійных Таварыстваў.

Канферэнцыі Біблійнага Таварыства адбываюцца кожныя тры гады. Падчас іх заслухоўваецца справаздача кіраўніцтва, абіраецца новы склад кіраўнічых органаў, абмяркоўваюцца планы будучае дзейнасці.

На сёлетняй канферэнцыі было паведамлена, што за 6 гадоў існавання Таварыства ў Беларусі ім было распаўсюджана 870 тыс. экзэмпляраў біблійнае літаратуры. Выканаўчы дырэктар таварыства Якаў Патупчык адзначыў відавочны спад попыту на біблійную літаратуру ў беларускім грамадстве, які назіраецца з 1994 г. Напрыклад, за 9 месяцаў 1998 г. было распаўсюджана ўсяго 9 тыс. Біблій, тады як на першапачатковым этапе дзейнасці Таварыства колькасць распаўсюджаных выданняў набліжалася да 100 тыс. экзэмпляраў у год.

Працяг на стар. 9

## Ян Павел II: грэка-каталікі павінны мужна і самааддана адбудоўваць сваю Царкву

З 29 верасня па 2 кастрычніка ў Апостальскай Сталіцы адбылося пленарнае паседжанне Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў, у якім бралі ўдзел ерархі Усходніх Каталіцкіх Цэркваў.

«Сёння вернікі Каталіцкіх Цэркваў усходняй традыцыі павінны выявіць такую ж моц і адвагу, як і ў часы, калі іхняя Царква стаяла перад пагрозаю знішчэння»,— сказаў Ян Павел II, звяртаючыся да ўдзельнікаў пленарнага паседжання Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў. Прыярытэтамі дзейнасці Усходніх Цэркваў Рымскі Архірэй назваў пастырскую апеку над грэка-каталіцкімі вернікамі ў дыяспары і аднаўленне Усходняй Літургіі.

Рымскі Архірэй звярнуў увагу на вельмі важную ролю, якую Усходнія Цэрквы могуць адыграць у справе поўнай еднасці Рыму і праваслаўнага свету. Ён нагадаў, што яшчэ на II Ватыканскім Саборы прагучала, што Грэка-Каталіцкія Сіноды, у якіх біскупы збіраюцца пад кіраўніцтвам патрыярха, следуюць даўняй царкоўнай мадэлі, якая ілюструе прынцыпы эклезіяльнай еднасці.

Ян Павел II заўважыў, што абавязкам Усходніх Каталіцкіх Цэркваў, дзякуючы іхнай «тэалагічнай і культурнай роднасці з Праваслаўнымі Цэрквамі», ёсць «прасоўванне наперад экуменічнага дыялогу». «Гэты працэс будзе вымагаць як рашучасці адносна пераадолення падзелу, спрычыненага мінулымі і цяперашнімі крыўдамі, якія робяць цяжэйшым дасягненне еднасці»,— сказаў Рымскі Архірэй. Экуменізм, паводле словаў Папы, ёсць прыроднай формай місіянерскай працы, да якой усе хрысціяне пакліканы ў Хрышчэнні.

Ян Павел II прапанаваў кангрэгацыі падрыхтаваць катэхетычнае кіраўніцтва для Усходніх Цэркваў з акцэнтам на «значэнні Біблііі, Літургіі і царкоўных традыцыяў». Гэтая праца павінна была б засяродзіць увагу на спадчыне кожнай Грэка-Каталіцкай Царквы, уключна з шанаванымі ў ёй святымі і іконамі. Папа таксама падкрэсліў важнасць манаскай традыцыі, якая знайшла свой пачатак на хрысціянскім Усходзе. Святы Айцец запэўніў, што Рыма-Каталіцкая Царква ўсведамляе, як моцна пацярпелі Грэка-Каталіцкія Цэрквы падчас камуністычнага рэжыму і як многім з іх яшчэ і сёння даводзіцца выжываць у складаных абставінах. Нялёгка даводзіцца і ўсходнім католікам,што жывуць у такіх частках свету, дзе грэка-каталіцкія традыцыі сутыкаюцца з неразуменнем,— адзначыў Рымскі Архірэй.

Святы Айцец асабліва падкрэсліў, што «біскупы лацінскага абраду пакліканы прапагандаваць і абараняць права ўсходніх католікаў жыць і маліцца адпаведна той традыцыі, якую яны атрымалі ад сваіх бацькоў».

## Багаслоўская камісія разглядае гістарычныя памылкі Каталіцкай Царквы

З 1 па 4 кастрычніка ў адказ на заклік Яна Паўла II да Царквы «зрабіць іспыт свайго сумлення», які быў выказаны ў энцыкліцы *«Tertio Millennio Adveniente»*, у Рыме адбылося чарговае паседжанне Міжнароднай тэалагічнай камісіі. Яе члены рабілі спробу зразумець, у якой ступені Каталіцкая Царква павінна каяцца за памылкі мінулага.

Гэтая камісія, якая была створана яшчэ папам Паўлам VI, складаецца з 30 каталіцкіх навукоўцаў. Яе склад зацвярджаецца асабіста Рымскім Архірэем і перагледжаецца раз у 5 гадоў, а працай кіруе прэфект Кангрэгацыі веравучэння.

На апошнім сваім пасяджэнні багаслоўская камісія перагледзела і дапоўніла праект заявы пакаяння, з якой павінен выступіць ад імя ўсёй Каталіцкай Царквы Ян Павел II. Гэты дакумент плануецца падрыхтаваць да юбілейнага 2000 году. У ім ідзе гаворка пра грахі, што зроблены членамі Царквы на працягу ўсёй яе гісторыі, у прыватнасці, пра дзейнасць інквізіцыі, пра крыжовыя паходы, пра антысемітызм. «Багаслоўскае значэнне гэтай акцыі палягае ў тым, што ўпершыню ў гісторыі Папа выступіў з такой ініцыятывай»,— сказаў сакратар камісіі дамініканец са Швейцарыі Жорж Кацье. Паводле ягоных словаў, галоўная задача сябраў камісіі ў тым, каб вызначыць, як можа быць поруч з пакаяннем за «гістарычныя грахі» хрысціянаў сцверджанне святасці самой Царквы, «як можа Царква, якая не можа грашыць, будучы Царквою, адказваць за грахі сваіх дзяцей».

## Кардынал Ахіле Сільвестрыні заклікае Усходнія Каталіцкія Цэрквы працаваць для ўзбагачэння Усяленскай Царквы

Каб выжыць і ўзбагаціць Усяленскую Царкву, Усходнія Цэрквы патрабуюць абароны і ўмацавання,— сказаў прэфект Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў Ахіле Сільвестрыні, звяртаючыся да ўдзельнікаў пленарнага паседжання гэтай кангрэгацыі. «Усходнія Цэрквы з'яўляюцца жывым сведчаннем таго факту, што Каталіцкая Царква... — гэта сімфонія, у якой гучыць голас і сведчанне розных Цэркваў. Разглядаючы Грэка-Каталіцкія Цэрквы толькі як «адгалінаванні» ад Каталіцкай Царквы, Усяленская Царква можа страціць адну з найяскравейшых выяваў сваёй універсальнасці».

Гаворачы пра экуменічную сітуацыю, кардынал Сільвестрыні адзначыў, што Грэка-Каталіцкія Цэрквы часта становяцца крыніцай непаразуменняў. «На іх часта з падазрэннем (калі не сказаць — з варожасцю) глядзяць Праваслаўныя Цэрквы, не зважаючы на тое, што маюць так шмат супольнага ў гісторыі і традыцыі. З іншага боку, нямала рыма-католікаў звяртаюцца да Праваслаўных Цэркваў, забываючы пра тое, што ў іхнай каталіцкай супольнасці ўжо ёсць усходнія браты».

Але сярод усіх тых складаных праблемаў, што стаяць сёння перад Усходнімі Каталіцкімі Цэрквамі, ім трэба нанова знаходзіць і адстойваць сваю спадчыну ды ідэнтычнасць, якія неабходны для іхняга росквіту,— сказаў прэфект Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў.

## Ватыкан выдаў новы дакумент пра прымат Папы

Нядаўна Ватыкан апублікаваў новы дакумент, які прысвечаны папскаму прымату. Паводле словаў прэфекта Кангрэгацыі веравучэння кардынала Ратцынгера, дакумент падсумоўвае «асноўныя пункты каталіцкага вучэння пра прымат Папы. Дакумент мае 9 старонак. У ім падкрэсліваецца, што першынства Рымскага біскупа з'яўляецца гарантыяй ад сваволля, гарантам еднасці Царквы і вернасці слову Божаму». У аснову новага тэксту закладзены матэрыялы сімпозіуму, які адбыўся ў снежні 1996 году, пра першынства Папы. У хуткім часе гэтыя матэрыялы апублікуе Ватыканскае выдавецтва.

У дакуменце гаворыцца, што прымат апостала Пятра, а адпаведна, і ягоных наступнікаў, мае аснову ў евангельскім тэксце і ёсць запаветам Хрыста. Такім чынам, пішуць аўтары тэксту, «папскі прымат адрозніваецца і па сваёй сутнасці, і па сваім прымяненні ад улады ў свецкай дзяржаве». Роля Папы не абмяжоўваецца простым «каардынаваннем справаў», яе не можна лічыць «пачэсным першынствам». «Наступнік Пятра — гэта камень, які насуперак будзь-якому сваволлю і канфармізму, з'яўляецца гарантыяй строгай вернасці Слову Божаму»,— пішуць ватыканскія тэолагі. Паняцце пра тое, якім чынам павінна здзейснівацца папскае служэнне, можа прыняць толькі сам Папа або Папа разам з Усяленскім саборам,— гаворыцца далей у дакуменце.

У той жа час, сцвярджаецца ў дакуменце, папскі прымат не павінен разглядацца як нейкая форма абсалютызму, паколькі Папа, падобна Пятру, прымае рашэнні, парадзіўшыся з біскупамі ўсяго свету.

Аўтары дакументу заклікаюць хрысціянаў маліцца за тое, каб прадстаўнікі розных канфесіяў прыйшлі да адзінага разумення папскага прымату, зрабіўшы такім чынам рашучы крок да еднасці.

Дакумент выйшаў за подпісамі прэфекта Кангрэгацыі веравучэння кардынала Ратцынгера і сакратара гэтай кангрэгацыі архібіскупа Тарчызіо Бэртонэ. Ён з'яўляецца адказам ватыканскіх багасловаў на заклік Яна Паўла II разважаць над папскім прыматам. Гэты заклік Рымскага Архірэя прагучаў у энцыкліцы 1995 году *«Ut Unum Sint»*.

## Львоўская Багаслоўская Акадэмія атрымала міжнароднае прызнанне

28 лістапада адбылося ўрачыстае наданне Львоўскай Багаслоўскай Акадэміі міжнароднай акрэдытацыі рымскай Кангрэгацыяй Каталіцкай Асветы. На працягу трох гадоў прадстаўнікі Кангрэгацыі спасцерагалі за працай Акадэміі. Акрэдытацыя сведчыць пра яе належныя навуковы і навучальна-метадычны ўзровень, адпаведны выкладчыцкі склад і бібліятэку. Цяпер дыплом ЛБА будзе даваць права паступлення ў аспірантуру багаслоўскіх установаў любой краіны.

Дарэчы, з усіх постсавецкіх краінаў толькі ў Беларусі багаслоўе было прызнана дзяржавай за навуковы прадмет.

## Заява Усяленскага Патрыярха Варфаламея дае надзею на экуменічную «адлігу»

Падчас нядаўняга візіту ў Польшчу Канстанцінопальскі Патрыярх Варфаламей I даў высокую ацэнку экуменічнай працы Яна Паўла II і заклікаў да новага этапу ў дыялогу паміж Праваслаўнай і Каталіцкай Цэрквамі. Многія аглядальнікі расцанілі гэтую заяву Патрыярха Варфаламея як знак паслаблення напружання ў стасунках між абедзвюма Цэрквамі. Паводле словаў Варфаламея I, юбілей Пантыфікату Яна Паўла II стаўся «вехаю не толькі для Рыма-Каталіцкай Царквы, але і для ўсяго хрысціянства». Першаерарх Канстанцінопальскай Царквы выказаў шчырае задавальненне ў сувязі з аднаўленнем працы міжнароднай праваслаўна-каталіцкай багаслоўскай камісіі, якая зноў збярэцца пасля трывалага перапынку ў чэрвені 1999 году ў Балтыморы (ЗША). «Мы верым у гэты дыялог, ён актуальны сёння, ён важны таксама для вернікаў, — сказаў Варфаламей I.— Як гаворыць Яго Святасць Ян Павел II, зараз, стоячы на парозе трэцяга тысячагоддзя, мы павінны быць адзіныя. Хоць перад намі ляжыць яшчэ доўгі шлях, абодва бакі поўныя рашучасці ісці наперад... Нам патрэбна ацаліць раны, нанесеныя раздзелам, варожасцю і барацьбою за першынства».

## ЗША прынялі закон пра абарону Канстанцінопальскага патрыярхату

Кангрэс ЗША прыняў закон пра цэласнасць і незалежнасць Усяленскага патрыярхату. Гэты дакумент быў ухвалены палатай прадстаўнікоў, а затым і сенатам. Новы закон падпісаў і прэзідэнт Клінтан. Паводле закону, «кангрэс лічыць, што ЗША павінны ажыццяўляць ціск на ўрад Турэччыны і прапанаваць ураду гэтае краіны наступнае: 1) вызнаць Канстацінопальскі патрыярхат і яго непалітычную, рэлігійную місію; 2) забяспечыць сталую фізічную бяспеку патрыярхату ў адпаведнасці з турэцкім і міжнародным правам, у тым ліку згодна з Лазанскім пагадненнем, пратаколам 1968 г., Заключным Хельсінскім актам (1975) і Парыжскай хартыяй ; 3) надаць належную абарону Канстанцінопальскаму патрыярхату і ягонаму персаналу; 4) зноў адкрыць Багаслоўскую школу Канстанцінопальскага патрыярхату на выспе Халкі».

Па атрыманні паведамлення пра прыняцце гэтага закону архібіскуп Амерыканскі Спірыдон, экзарх Канстанцінопальскага пасаду ў Заходнім паўшар'і, выступіў з заявай, у якой выказаў удзячнасць амерыканскім заканадаўцам за клопат аб праваслаўных хрысціянах. Ён заклікаў таксама ўсіх праваслаўных выказаць падзяку за прыняцце такога закону.

## Зняважаны грэка–каталіцкі храм св. Міколы на Аскольдавай магіле

У ноч з 13 лістапада ў Кіеве невядомыя асобы зняважылі адноўлены паўгоду таму грэка-каталіцкі храм св. Міколы на Аскольдавай магіле. Парах і вернікі, якія прыйшлі ў суботу на ранішняе набажэнства, пабачылі жахлівую карціну: фасад храму-ратонды быў увесь спісаны кабалічнымі сімваламі — пентаграмамі з упісанымі ў іх трыма шасцёркамі і перакуленымі крыжамі. Выкананыя шэрай нітрафарбай малюнкі чаргаваліся з надпісамі, з якіх даволі цяжка зрабіць выразную выснову пра рэлігійныя прыхільнасці «мастакоў»: сатаністкія сімвалы і нецэнзурныя надпісы былі поруч з паганскім лозунгам «Слаўся бог наш Пярун» і характэрным закідам супраць грэка-католікаў «За колькі срэбранікаў прадалі веру Русі?». Акрамя фасаду, нанесена шкода і інтэр'еру царквы: разбіўшы акно, зламыснікі ўчынілі падпал, у выніку якога згарэлі багаслужбовыя кнігі і ручнікі, пашкоджана нядаўна выкладзеная падлога і практычна знішчана агнём копія цудатворнай іконы Зарваніцкай Божай Маці.

Паводле словаў параха Ігара Анішкевіча, фактычна з самага пачатку існавання дзеючага храму УГКЦ у парку на Аскольдавай магіле з 1992 году зафіксавана сем выпадкаў зламысніцкіх дзеянняў супраць царквы. Сярод іх — надпісы і малюнкі на царкве, разбітая надмагільная пліта і зламаны крыж на магіле ўкраінскіх студэнтаў, што загінулі ў 1918 годзе пры абароне Кіева ад бальшавіцкіх войскаў і інш. Справаю займалася міліцыя, але... Як лічаць многія, простая логіка падказвае, што не апошнюю ролю ў тым, што здарылася, адыграла фатальнае суседства храму з руінамі колішняга Зялёнага тэатру — агульнавядомага месца сходак сатаністаў.

## Усходнія Каталіцкія Цэрквы Еўропы: гісторыя веры і пакутаў у XX стагоддзі

Арганізаваны ў Рыме Кангрэгацыяй Усходніх Цэркваў 22-24 кастрычніка гэтага году сімпозіум «Усходнія Каталіцкія Цэрквы Еўропы ў іхняй гісторыі веры і пакутаў у XX стагоддзі» быў адказам на заклік Святога Айца Яна Паўла II паглыбіць памяць пра сведчанне волатаў веры нашых Цэркваў у цяжкі час дваццатага стагоддзя. У сімпозіуме ўдзельнічалі ерархі і гісторыкі Усходніх Каталіцкіх Цэркваў Цэнтральнае, Паўднёвае і Усходняе Еўропы. Беларускіх грэка-католікаў прадстаўляў архімандрыт Сяргей Гаек і гісторык нашае Царквы Сяргей Абламейка.

На гэтым важным міжнародным форуме ўпершыню прагучалі імёны беларускіх пакутнікаў. Усе яны былі сапраўднымі сведкамі Ісуса Хрыста і вялікімі патрыётамі. Гістарычныя даследаванні, зробленыя ў рамках падрыхтоўкі да сімпозіуму, дазволілі бачыць неперарыўнасць жыцця Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі ад часоў так званага Полацкага «сабору» да сённяшніх дзён. Нават калі не існавалі царкоўныя структуры, існавалі вызнаўцы і пакутнікі.

Удзельнікі сімпозіуму мелі магчымасць сумесна асэнсаваць, што сведчанне веры шматлікіх вернікаў у час камуністычнага пераследу — гэта каштоўная спадчына для духоўнага жыцця Усходніх Каталіцкіх Цэркваў сёння, напярэдадні Юбілею 2000 году.

**а. Роберт Крывіцкі**

## *Вынікі працы Патрыяршага Сабору і Сіноду Біскупаў УГКЦ*

Каментуючы на прэс-канферэнцыі вынікі працы Патрыяршага Сабору і Сіноду Біскупаў УГКЦ, уладыка Любамір Гузар, біскуп-памочнік Першаерарха УГКЦ, падкрэсліў выключную важнасць у жыцці Царквы такіх сходаў, як Сабор. Ён таксама падкрэсліў вялікую неабходнасць актыўнасці вернікаў у жыцці Царквы, у супрацоўніцтве з духавенствам: «Менавіта гэты фактар — актыўнасць міранаў у жыцці царкоўнай супольнасці, таксама і дзяржавы,— будзе спрыяць паляпшэнню нашага жыцця, будзе спрыяць дасягненню поспехаў у разбудове нашай Царквы і Украіны».

Сярод 38 пунктаў пастановаў і рашэнняў Сіноду Біскупаў УГКЦ варта адзначыць пастанову аб выданні Пастырскага ліста пра літургійную абнову, яе патрэбу, мэту і правядзенне. Для яе ажыццяўлення вырашана распрацаваць 10-гадовы план працы Сінадальнай Літургічнай камісіі. Наогул, Сінод удзяліў літургічнаму пытанню вельмі шмат увагі, бо Царква найлепш праяўляецца менавіта ў сваім літургічным жыцці. На Сінодзе быў таксама зацверджаны тэкст Малебна да Пратулінскіх мучанікаў для літургічных багаслужэнняў.

Прыярытэт і асаблівую дапамогу Сінод вырашыў скіраваць для душпастырскай і катэхетычнай працы на Усходняй Украіне (Кіева-Вышгарадскі экзархат) і на тэрыторыі колішняга СССР. У пастановах зроблены акцэнт на неабходнасць удзяляць больш увагі і працы з маладымі сем'ямі і асабліва з моладдзю 12-18 гадоў. Пастаяннаму Сіноду УГКЦ даручана справа канчатковай рэабілітацыі Грэка-Каталіцкай Царквы з боку дзяржавы.

Яшчэ адно актуальнае пытанне, якое абмяркоўвалася на Сінодзе Біскупаў і па якім была прынятая адмысловая пастанова,— «пра талераванне неўжывання слова «праваслаўны». Каментуючы гэтае рашэнне, уладыка Гузар сказаў: «Гэтая праблема за межамі Украіны не існуе. Мы хацелі, каб усе аднолькава або ўжывалі, або адмовіліся ад выкарыстання слова «праваслаўны», але ў выніку дыскусіяў мы пераканаліся, што для гэтага час яшчэ не прыйшоў. Людзі занадта эмацыйна ўспрыймаюць гэтае паняцце і не прыслухоўваюцца да рацыянальных доказаў... Таму, каб не ствараць процістаяння, Сінод ухваліў талераванне неўжывання слова «праваслаўны». Гэта азначае, што гэтае слова можна выкарыстоўваць у неабходных тэкстах, а там, дзе гэта стварае напружаную сітуацыю, можна і не ўжываць». Права вырашэння адносна ўжывання ці неўжывання гэтага слова на пэўны час пакінута ў поўнай кампетэнцыі кожнага параха.

Сінод пастанавіў напісаць паўторны ліст да адпаведных царкоўных уладаў Ватыкану ў справе манаскіх законаў лацінскага абраду, якія дзейнічаюць на Украіне, каб яны прымалі ўсходні абрад. На прэс-канферэнцыі, дарэчы, значнае месца занялі пытанні стасункаў Грэка-Каталіцкай Царквы з Рыма-Каталіцкай Царквой, праблемы бірытуалізму на тэрыторыі Украіны. Паводле словаў уладыкі Юльяна Гбура, сакратара Сіноду, кожны, хто прыязджае на Украіну, павінен памятаць рашэнні II Ватыканскага Сабору адносна місіянерства, а таксама пра такое паняцце, як інкультурацыя. Галоўным чынам гаворка вядзецца пра дзейнасць на постсавецкай прасторы місіянераў з Захаду. Біскуп-памочнік Першаерарха УГКЦ Любамір Гузар з гэтай нагоды, у прыватнасці, заўважыў, што каталіцкія місіянеры, якія прыязджаюць на Украіну, павінны зважаць на пачуцці ўкраінскага кліру, а таксама на тое, што яны знаходзяцца на іншай этнічнай тэрыторыі, са сваімі традыцыямі і культурай. Ён падкрэсліў, што кожная справа вымагае талеранцыі і трэба не забывацца, што ўсё павінна рабіцца на славу Божую.

*Інфармацыя падрыхтавана паводле паведамленняў Агенцтва рэлігійнай інфармацыі (АРІ), Каталіцкага інфармацыйнага агенцтва (КАІ) і іншых прэсавых крыніцаў.*



*Добры дзень, шаноўная рэдакцыя!*

*Пішу да вас упершыню. Мне 26 гадоў. Я з'яўляюся студэнтам 4-га курсу факультэту журналістыкі (завочнае аддзяленне) Беларускага дзяржаўнага універсітэту. Яшчэ я пазаштатна супрацоўнічаю з дзвюма мясцовымі газетамі. Цікаўлюся гісторыяй, паліталогіяй, гісторыяй хрысціянскай Царквы. Я ахрышчаны, калі і нарадзіўся — у 1972 годзе, у праваслаўным храме, але ведаю, каб стаць сапраўдным хрысціянінам, трэба практыкаваць: наведваць храм, спавядацца, прыймаць прычасце, маліцца. На жаль, я яшчэ не так моцна духоўна падрыхтаваны, каб ісці да споведзі і прымаць прычасце, але малюся дома кожны дзень, у царкве на багаслужэнні бываю рэдка. Быў я і ў каталіцкім храме, і ў праваслаўным, і ведаю, што да 1054 году Царква была адзінаю. Але мне самому цяжка разабрацца ў царкоўным расколе 1054 году, таму, напрыклад, што ў каталіцкай літаратуры напісана, што Рымскі Папа пераемнік апостала Пятра, а ў праваслаўнай — што не. У каталіцкай літаратуры напісана, што Усходняя Царква аддзялілася ад Усяленскай, а ў праваслаўнай — што Рымская Царква аддзялілася, і шмат іншых пытанняў пра гісторыю Царквы. Сам я выступаю за ўз'яднанне хрысціянства і хачу, каб Царква зноў была адзінаю, таму што я ведаю — тады можна будзе перамагчы вельмі шмат розных непрыемнасцяў, якія зараз існуюць на планеце. Але пытанне — якая была Царква да расколу і якая павінна быць пасля ўз'яднання — мяне вельмі хвалюе, і таму я вас вельмі прашу, шаноўная рэдакцыя, дапамажыце мне, калі ласка, у гэтым. Парайце мне, калі ласка, дзе мне можна набыць адпаведную літаратуру, ці, калі гэта магчыма, прышліце такую літаратуру, колькі трэба грошаў, я заплачу. Яшчэ мне б хацелася набыць Дэкрэт «Аб Усходніх Каталіцкіх Цэрквах» і новы беларускі малітоўнік «Цябе, Бога, хвалім». Напішыце, як можна набыць усе нумары «Царквы», якія выйшлі за час існавання газеты, і як падпісацца на «Царкву».*

*Да пабачэння!*

*Вельмі чакаю ад вас адказу. З вялікай пашанаю!*

**Сяргей Іваннікаў**

*г.Барысаў*

**Ад рэдакцыі:**

*Шаноўны сп.Сяргей!*

*Адказ на хвалюючае Вас пытанне, якая Царква ёсць сапраўднай, дастаткова просты — Царква Хрыстова. Чытайце і разважайце над Святым Пісьмом. Магчыма, для роздуму Вам у нечым дапаможа сведчанне расейца паходжаннем Аляксандра Сімчанкі, якое змяшчаем побач. А наогул, кожны мусіць сам некалі даць сабе адказ на гэтае пытанне.*

*З радасцю выконваем просьбу адносна замоўленай Вамі літаратуры. Спадзяёмся, яна будзе Вам на карысць. А на газету «Царква» можна падпісацца цяпер у любым паштовым аддзяленні сувязі.*

**Сведчанне**

# Нармальны стан Царквы — быць Адзінай Святой Паўсюднай Апостальскай

Калі да 29 гадоў жыцця мне стала зразумела, што поўняй Богаадкрыцця з'яўляецца хрысціянства, я пачаў шукаць хросту там, дзе кантакт з Богам будзе найбольш поўны. Некаторы час я хадзіў да юдэяў у сінагогу (але не на зямлі, і не ў дзяржаве Ізраіль увасабляюцца ў поўні абяцанні, а на нябёсах і ў Хрысце Ісусе), потым — да евангельскіх хрысціянаў-баптыстаў. Але ў баптыстаў мне вельмі не хапала гістарычнай дакладнасці хрысціянства — Святога Падання, — а з-за гэтага і поўні разумення Пісання.

У Праваслаўнай Царкве, хоць я і дагэтуль вельмі ўдзячны айцам Уладзіміру Рыгіну, Арцемію Уладзіміраву, Паўлу Лысаку, якія шмат клапаціліся аб выратаванні маёй душы, мне ўсё ж не хапала ўсведамлення прысутнасці Бога «тут і цяпер» і той Усяленскай поўні веры, якую я знайшоў у Каталіцкай Царкве. На жаль, усе прыклады святасці, якія мне прыводзілі ў Праваслаўнай Царкве, адносіліся да манахаў, епіскапаў і пустэльнікаў, што жылі ў далёкім мінулым. Цяпер, праз некалькі гадоў, св. Васіль Вялікі, Ян Залатавусны, св. Марыя Ягіпецкая сталіся мне зразумелыя і блізкія.

Толькі ў Каталіцкай Царкве, падчас катэхізацыі, мне стала зразумелай сутнасць хрысціянскае веры: Хрыстос — жывы, ёсць, і для кожнага чалавека, і для мяне асабіста магчыма сустрэча з Ім. У дараванні грахоў я зразумеў, што Бог не дробязны і помслівы, але Добры, Ён жадае Збаўлення, пабожнага і вечнага жыцця нам, грэшнікам. І не слупянець у жаху трэба ад Ягонага Быцця, але з даверам і адкрытасцю імкнуцца да Яго, і Яму аднаму пакланяцца, Яму аднаму служыць.

І не з таго ўсё пачалося, што Каталіцкая Царква найбольш адпавядае вызначэнню «Адзіная Святая Паўсюдная Апостальская»,— Сімвал веры я вывучыў пазней. Ніводнага слова асуджэння пратэстантаў ці праваслаўных хрысціянаў не пачуў я ад каталіцкіх святароў і катэхізатараў. Не было і асуджэння юдэяў, мусульманаў, але гаварылі мне пастыры пра неабходнасць пошуку любові і ісціны ва ўсім тварэнні Божым, пра пакліканне ўсіх людзей да збаўлення ў Хрысце.

З самога жыцця маленькай тады каталіцкай грамады ў Маскве рабіліся зразумелымі словы Госпада пра тое, што «Валадарства Нябеснае падобнае зерню гарчыцы». Царква расла, прапаведавала, вучыла, і ў адзіны каталіцкі храм у Маскве — храм св. Людовіка — з цягам часу прыходзіла ўсё больш людзей, і Каталіцкая Царква прымала ўсіх. Хрысцілі, спавядалі, адкрылі каледж св. Тамаша Аквінскага і дабрачынную арганізацыю. Усім людзям хапала месца, усяму ўдзялялася ўвага, нават эканомікі і палітыцы, але нішто, ні на секунду, не зацямніла галоўнае — Айца, і Сына, і Святога Духа. І ўсё гэта нікога не адцягнула ад спавядання гэтага Святога імя, але наадварот, усё менш было свецкіх спадзяванняў і перажыванняў, і ўсё больш і больш напаўняў нованавернены Госпад.

Але часам было страшна жыць, бо вакол цябе жывуць людзі — родныя, сябры, знаёмыя, надзеленыя целам і душою, пра збаўленне якой яны зусім не клапоцяцца. Грахі — паўсядзённыя, і да іх яны ставяцца абыякава, як да належнага, і, не маючы на ўвазе перспектывы ўваскрашэння ў выніку сустрэчы з Хрыстом, такі чалавек ператварае сваё жыццё ў простае баўленне часу да моманту смерці.

Як я заўважыў, падставаю для духоўнай індыферэнтнасці для многіх служыў і служыць сам факт падзелу Цэркваў, а дакладней — уяўная разарванасць адзінага Цела Хрыстова — Царквы. Цяжка ўсведамляць, што Боскіх прычынаў для такога раздзялення няма, але толькі чалавечая пыха і самадурства раздзіраюць Цела Збавіцеля. Калі я спрабаваў зразумець і вывучыць праваслаўную Літургію па *«Настольной книге священнослужителя» (Москва, 1977)*, у адным месцы мяне ўразіў выраз: «З боку праваслаўных у адносінах да новаўвядзенняў на першы план вылучаецца веравызнаўчы крытэрый: праваслаўныя ці неправаслаўныя новыя спевы? Аднаго факту, што спеў гэты ішоў на Русь не з традыцыйнага Усходу, а з лацінскага Захаду, было дастаткова, каб лічыць яго ерассю». Ніводнага слова пра веру ў Госпада, пра Богапазнанне тут няма. За веравызнаўчы крытэрый «праваслаўнасці» бярэцца месца, адкуль паходзіць музычны стыль, а сам стыль музычнага мастацтва — за «праваслаўнае веравызнанне»!

Я перакананы, што нармальны стан Царквы — быць Адзінай Святой Паўсюднай Апостальскай. Але адзінства Царквы можа быць забяспечанае толькі главенствам Рымскага Архірэя — «на камені веры Пятра ўмацаваўшы» — як намесніка Хрыстовага, гаранта праўдзівасці веры. «І Ісус сказаў яму ў адказ: дабрашчасны ты, Сымоне, сыне Ёнаў, бо не плоць і кроў адкрылі табе гэта, а Айцец Мой, Які ёсць у нябёсах; і Я кажу табе: ты Пётра, і на камені гэтым Я збудую Царкву Маю, і брамы пякельныя не адолеюць яе. І дам табе ключы Царства Нябеснага: і што звяжаш на зямлі, тое будзе звязана ў нябёсах; і што развяжаш на зямлі, тое будзе развязана ў нябёсах» *(Мц 16, 17-19)*.

І я веру, што Госпад паставіў мяне служыць Яму менавіта дзеля гэтай еднасці — Уніі, якая з'яўляецца прагненнем усяго хрысціянскага народу. Можна сказаць, Унія павінна стаць справай славянаў, бо менавіта расейскі, балгарскі, сербскі, часткова украінскі і беларускі народы складаюць аддзеленыя Цэрквы.

**Аляксандр Сімчанка**

*г.Масква*

*P.S. Аўтар гэтых радкоў не так даўно быў высвячаны на грэка-каталіцкага дыякана. Шчыра радуемся і віншуем яго са спаўненнем ягонай мары — служыць Госпаду і справе царкоўнага адзінства!*



Урывак з кнігі Альберта Аблондзі «Ніякіх павучанняў»

# "Састарэлыя ідэалы і разлажэнне"

*Добры дзень.*

*Я — Марка, просты 19-гадовы хлапец... Давай адразу пяройдзем на «ты» — гэтак мне было б утульней.*

*Перайшоўшы ад пачатковай школы да сярэдняй, я пазнаёміўся і пасябраваў з цудоўным хлопцам, Андрэа, які, як і я, веруючы. Але чамусьці ў мяне прапала жаданне хадзіць на Імшу па нядзелях. Ты можаш спытацца — з якой прычыны? Калі шчыра, то я і сам не ведаю. Можа таму, што з узростам я ўсё больш бачыў у Царкве (заўваж — не ў веры, але ў ЦАРКВЕ) — «РАЗЛАЖЭННЕ» сістэмы. У прыватнасці, як мне расказалі людзі (якія па ўзросце знаходзяцца паміж мной і табой), яшчэ некалькі гадоў таму, напярэдадні выбараў, святары гаварылі ў Царкве, што галасаванне ў нас, натуральна, свабоднае, але ўсё ж трэба было б пастарацца прагаласаваць за партыю дэмакратычную, але галоўнае — хрысціянскую. Ад гэтага «братняга саюзу» паміж Царквой і Хрысціянска-дэмакратычнай партыяй мяне проста муціла.*

*Але вернемся ў сённяшні дзень. Ведаеш, чаму раней у Царкву хадзіла значна больш моладзі, чым цяпер? Таму, што сустрэцца і пагаварыць тады можна было, па сутнасці, толькі ў двух месцах — у Царкве і ў Доме культуры. Дык, калі ты не быў камуністам, значыць, хадзіў у царкву. А сёння, калі ёсць столькі месцаў для тусовак (кегельбаны, ПРАКЛЯТЫЯ дыскатэкі...), ну дзеля чаго моладзь будзе наведваць Царкву? А да таго ж, пры тым дэфіцыце ідэалаў, які мы маем сёння (а ДЭФІЦЫТ ВЕЛЬМІ ЖОРСТКІ, можаш мне паверыць), няўжо ж ты мяркуеш, што малады чалавек увойдзе ў свет ВЕРЫ? НЕ, не падманвай сябе. Вось, каротка, мае думкі. Наогул, у мяне іх яшчэ нямала, але пісаць больш нудна, чым гаварыць, дык на гэтым усё.*

***Чао. Марка***

Дарагі мой!

На пачатку некалькі словаў пра палітыку. Мне б не хацелася, каб ты няправільна вытлумачваў намеры святароў. Хрысціянін павінен быць паслядоўным у сваіх палітычных сімпатыях, гэта значыць, ён не можа рабіць выбар, які супярэчыць ягонай веры. Гэтае пытанне перш за ўсё чалавечай, а ужо потым хрысціянскай паслядоўнасці. А інакш, што ж гэта наогул за чалавек? Зразумела, у рамках гэтых палітычных сімпатыяў, якія не павінны супярэчыць ягонай веры, ён вольны далучыцца да тае ці іншае партыі — з тым, каб уносіць асабісты ўклад у развіццё грамадства.

Што да таго, ці важна хадзіць у Царкву, скажу так: вельмі, вельмі важна. Царква не ёсць усёпаглынальнаю сілаю, але натхняльным служэннем, яе можна было б нават параўнаць з дарожным знакам — стрэлкай, якая ўказвае, у якім кірунку мне варта рухацца, каб сустрэцца з самім сабою, з Госпадам, з іншымі людзьмі. Ты скажаш, да чаго ж саманадзейнаю ёсць Царква, калі яна прэтэндуе на такую ролю! І я б пагадзіўся з табою, калі б яна гэта рабіла дзеля свайго ўласнага імя! Але яна ёсьць зброяй, якую пакінуў нам Ісус. І ў гэтай прыладзе — парука за Ягонае Слова, якое, уласна, і валодае ўладаю прыводзіць мяне да сустрэчы з Богам, з іншымі і з самім сабою.

І на развітанне хацеў бы табе сказаць, што мяне здзівіў, і нямала, твой выраз «Царква разлагаецца». Але я не хапаюся за галаву. Нават хачу, калі дазволіш, тое-сёе табе параіць. Перш за ўсё, не трэба мераць усё на адзін капыл. Існуе — і нямала — сапраўдных хрысціянскіх грамадаў, якія, з вялікаю цяжкасцю, але ў чысціні, нясуць Хрыстовую вестку. І вось яшчэ што асмелюся табе сказаць: замест таго, каб асуджаць, няхай нават і не без падставаў, асобныя дзеянні і сітуацыі ў Царкве, ці не лепш папрацаваць табе самому ў Царкве? Бо ж і з тваёю дапамогаю замест «разлажэння», якое нявечыць і выклікае агіду, яна магла б прапанаваць закваску, здольную ўзвысіць любы бок жыцця — праз прысутнасць Хрыста!



Дык папрацуй і ты, каб зрабіць з Царквы, якая «разлагаецца», Царкву-«закваску». Магчыма — дапамагаючы тваім святарам, знаёмячы іх з тваімі патрабаваннямі, крытычнымі заўвагамі, але разам з тым — чаму ж не,— прапануючы ім належнае супрацоўніцтва.

З любоўю,

**† Біскуп Альберта**

## Развітанне з пастырам

Смуткуюць беларускія грэка-католікі. Заўчасная смерць (2 верасня 1998 году) айца Яна Матусевіча, дэкана Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі, параха грамады св. Язэпа, сталася вялікай стратай для ўсіх беларусаў. Айцец Ян не толькі з'яўляўся пачынальнікам адраджэння Грэка-Каталіцкай Царквы ў нашай краіне. Ён быў яшчэ і вядомым грамадскім дзеячам: удзельнічаў у працы Таварыства беларускай мовы, пастаянна падтрымліваў сувязі з рэдакцыямі многіх газет, бо захапляўся гісторыяй і літаратурай, разам з усімі беларусамі смуткаваў ў Курапатах, браў удзел у Чарнобыльскім шляху. Усяго не пералічыць, што зрабіў для свайго народу айцец Ян за свае 50 гадоў жыцця. А самае галоўнае — ён шчыра служыў Госпаду і людзям.

Не злічыць, колькі людзей прыйшло ў Чырвоны касцёл св. Сымона і Алены, дзе стаяла труна а. Яна. Людзі ішлі і ішлі, каб пакланіцца ў апошні раз гэтаму самааддананаму і мужнаму чалавеку, які, не шкадуючы здароўя, працаваў на ніве Гасподняй.

3 верасня а 12-й гадзіне адбылася памінальная служба, у якой прынялі ўдзел Апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў у замежжы а. А.Надсан, Апостальскі візітатар для грэка-католікаў у Беларусі айцец архімандрыт Сяргей Гаек, беларускія грэка-каталіцкія святары і манахі, было шмат і рыма-каталіцкіх святароў. Вялікі дзякуй ад усіх грэка-католікаў Беларусі айцу Казіміру Ляховічу, параху менскай грамады ў гонар іконы Маці Божай Нястомнай Дапамогі, які прыклаў шмат намаганняў, каб належна арганізаваць пахаванне айца Яна Матусевіча. Хор «Унія» ў апошні раз праводзіў айца Яна сваімі цудоўнымі спевамі.

Пахаванне дэкана БГКЦ адбылося на Кальварыйскіх могілках у Менску. На невялікай вольнай плошчы могілак ледзь размясціліся тыя, хто прыйшоў правесці ў апошні шлях айца Яна. Сярод іх былі не толькі грэка-католікі, але людзі розных веравызнанняў. Кветкі, вянкі, зноў кветкі, засмучаныя твары людзей...



Менск, 5.09.98. Чырвоны касцёл. Труна з целам нябожчыка айца Яна Матусевіча

Амаль кожны хацеў сказаць добрае слова пра нашага пастыра, кінуць жменьку пяску на труну, пад спеў велічнага гімна «Магутны Божа» правесці а. Яна ў вечны супакой.

Супакой, Госпадзе, душу слугі Твайго, і ўчыні яму вечную памяць.

Вечная памяць.

**Лідзія Баразнёнак**

*г.Менск*

## Рэлігійны лекторый у Горадні

У Горадні з ліпеня 1998 году штоаўторак пачаў працаваць рэлігійны лекторый, які наладзіў парах Гарадзенскай грэка-каталіцкай парафіі ў гонар З'яўлення Маці Божай у Фаціме айцец Віктар Данілаў.

Асноўныя мэты, якія ставіліся пры арганізацыі лекторыя, наступныя: прыцягнуць цікавасць да рэлігіі з боку грамадскасці, а таксама даць людзям правільнае разуменне хрысціянскай навукі. Прадугледжвалася, што слухачамі гэтага лекторыя будуць усе, хто пажадае. Аднак, нягледзячы на абвесткі ў 2 мясцовых газетах і на гарадскіх дошках аб'яваў, на запрашэнне спачатку ніхто не адгукнуўся. Тым не менш, заняткі пачаліся з 3 слухачоў-парафіянаў. Але паступова лекцыі пачалі прыцягваць увагу і колькасць слухачоў дасягнула 20 чалавек. Цяпер звычайна на лекцыі бывае не менш за 12-15 слухачоў. Ёсць надзея, што іх колькасць будзе і далей паступова расці.

На гэты час у лекторыі ідзе вывучэнне тэалогіі ўнутранага жыцця (методыка дасканаласці духоўна-маральнага жыцця) і чытаецца Біблія з падрабязным каментарам прачытанага тэксту. Акрамя таго, па ходзе лекцыяў абмяркоўваюцца розныя актуальныя пытанні нашага жыцця, напрыклад, пытанне пра любоў (што ёсць любоў, прыкметы сапраўднае любові, складовыя часткі любові, як зрабіць яе вечнай), пра сэнс чалавечага жыцця, пра паняцце Бога і пра доказы Ягонага існавання і інш. У планах таксама чытанне лекцыяў на розныя тэмы хрысціянскай навукі, а таксама лекцыі па гісторыі Царквы.

Варта падкрэсліць, што шмат якія лекцыі айца Віктара грунтуюцца не толькі на класічным курсе, які ён чытаў у каталіцкім катэхетычным інстытуце, але і на ўласным духоўным і місіянерскім досведзе, асабліва на тым, што набыты ім падчас лагернага жыцця і працы ў падполлі.



*Светлай памяці айца Яна Матусевіча*

Упершыню я ўбачыў айца Яна ў верасні 1990 г. на З'ездзе беларусаў свету. У той час я служыў у Казахстане, у горадзе Прыазёрску, і ад імя суполкі беларусаў быў накіраваны на гэты з'езд. Як і многія беларусы тых часоў, я шукаў сваё месца ў Адраджэнні, у тым ліку свайго Бога, сваю Царкву. Сярод дэлегатаў з'езду было многа вядомых людзей. Але немагчыма было не ўбачыць яго — айца Яна Матусевіча. З'яўленне сярод разнастайнай публікі каталіцкага святара, ды яшчэ з бел-чырвона-белым значком, мяне вельмі ўразіла і прымусіла задумацца над месцам Каталіцкай Царквы ў Адраджэнні. Прамова, з якой айцец Ян выступаў на з'ездзе, была прасякнута беларускім патрыятызмам, верай у абуджэнне народа праз Бога, верай у праслаўленне Бога на роднай мове.

Я, у тыя часы нехрысць і бязбожнік, быў настолькі ўражаны ад убачанага і пачутага, што праз гады магу аднавіць тую падзею да дробязяў. І сёння, дакладна магу сказаць, што маё навяртанне да Бога пачалося ад той сустрэчы. Я знайшоў Бога, сваю Царкву. Я стаў католікам, я стаў шчаслівым Чалавекам.

Дзякуй Вам за гэта, айцец Ян і вечны Вам супакой.

**І.Супаненка**

*г.Ворша*

## Смуткуюць беларусы ў Пецярбургу

У Пецярбургу, дзе жыве шмат выхадцаў з Беларусі, сярод якіх нямала католікаў абодвух абрадаў, нядаўна пабываў Апостальскі візітатар для грэка-католікаў у Беларусі айцец архімандрыт Сяргей Гаек. Разам з мясцовымі вернікамі 12 кастрычніка ў саракавы дзень смерці дэкана БГКЦ айца Яна Матусевіча ён адслужыў паніхіду. Служба адбывалася па-беларуску ў рыма-каталіцкай катэдры Успення Найсвяцейшай Багародзіцы.

Дарэчы, беларусы-католікі ў Пецярбургу даволі актыўныя. На адной з праграмаў мясцовага радыё штотыднёва выходзіць 15-хвілінная рэлігійная перадача па-беларуску.



Пецярбург, 12.10.98. Айцец архімандрыт Сяргей Гаек адпраўляе паніхіду па а. Я.Матусевічу

# Ружанцовая пілігрымка за адзінства Царквы ў Літманава

3-4 кастрычніка 1998 году адбылася грэка-каталіцкая ружанцовая пілігрымка да Літманава, што на Славаччыне.

Вёска Літманава размешчана на паўднёва-ўсходнім схіле горнага масіву Татраў, на вышыні 600 метраў над узроўнем мора, зусім побач з польска-славацкай мяжой, на тэрыторыі грэка-каталіцкай епархіі Прэшаў.

Гэтае паселішча паўстала яшчэ ў XV ст., але да апошняга часу мала каму было вядомае. Напэўна, яно заставалася б такім і надалей, каб не падзеі, якія распачаліся тут улетку 1990 году.

Рэлігійнае жыццё мясцовых жыхароў русінаў (у асноўным яны грэка-католікі) цяжка было назваць актыўным — за час панавання камуністычнага рэжыму яно практычна прыйшло ў заняпад, бо царква стаяла зачыненай. Але менавіта тут і менавіта ў тыя часы, калі краіна здабыла незалежнасць, двум мясцовым дзяўчынкам з грэка-каталіцкай парафіі — Іветцы Карчакавай і Катцы Чашэлькавай, якім было тады адпаведна 12 і 13 гадоў, пачаліся з'яўленні вобразу Дзевы Марыі.

LITMANOVÁ

Гэтыя з'яўленні мелі месца на гары Цвірн, што за 3 км ад Літманава ды на 400 м вышэй за яго,— у раней закінутай звычайнай горнай стадоле для сена, якая належала бацькам Іветкі. У часы камуністычнага рэжыму хадзіць туды было забаронена, бо гэта была пагранічная зона.

З'яўленні Дзевы Марыі трывалі на працягу 5 гадоў: са жніўня 1990 г. да жніўня 1995 г. З 5 жніўня 1990 г. да 24 лютага 1991 г. Найсвяцейшая Багародзіца з'яўлялася дзяўчынкам шмат разоў на месяц, пераважна ў нядзелю і ў святы. Ад 3 сакавіка 1991 году яна заўжды з'яўлялася ў нядзелю па першай пятніцы месяца.

Падчас з'яўленняў (натуральна, акрамя самых першых) на гары звычайна прысутнічала да некалькіх тысячаў цікаўных. Свае пасланні Багародзіца скіроўвала да Іветкі, з якой яна размаўляла ў думках — унутраным духоўным голасам. Катка ад красавіка 1991 году трывала пры з'яўленнях толькі як сведка: Дзеву Марыю яна бачыла, але не чула. З'яўленні адбываліся як правіла ў пакоі 2,8 х 4 м. Дзяўчынкі спачатку маліліся, і тады нібы з туману з'яўлялася Багародзіца, часам сядаючы на вузкую драўляную лавачку ля сцяны. Падчас з'яўлення дзяўчынкі настолькі ўзносіліся духам, што зусім не ўспрымалі вонкавае атачэнне, а толькі пільна ўглядаліся з пяшчотнай усмешкай у з'яўленне.

Пасланні Божае Маці, атрыманыя праз Іветку, мелі розны характар. Некаторыя з іх адносіліся да дзяўчынак, іх сем'яў ці аднавяскоўцаў, іншыя — да ўсіх вернікаў; былі таксама і пасланні, скіраваныя да адказных духоўных асобаў Царквы, кіраўнікоў дзяржавы.

Найсвятая Дзева асвяціла таксама струмень крынічнае вады на гары Цвірн. Тут ужо меў месца цэлы шэраг аздараўленняў, якія рэгіструе біскупская камісія.

Усе гэтыя падзеі і спрычыніліся да таго, што пра невялічкую вёсачку Літманава з 600-мі жыхарамі ведаюць ужо, бадай, мільёны людзей, а гара Цвірн з'яўляецца сёння месцам шматлікіх марыйных пілігрымак: індывідуальных і калектыўных, са Славакіі, Чэхіі, Украіны, Польшчы ды іншых краінаў.

Гэтым разам 3-4 кастрычніка далучыліся да гэтых паломнікаў і вернікі з Беларусі. Сямёра яе прадстаўнікоў (па 2 — з Менску і Полацку, 3 — з Віцебску) узялі ўдзел у «Ружанцовай пілігрымцы за адзінства Царквы», якую ўжо пяты раз ладзіла місійнае таварыства святых Кірылы і Мятода, што дзейнічае на Украіне. Яно, дарэчы, дапамагае таксама і вернікам — католікам усходняга абраду і далёка за межамі Украіны, у тым ліку і ў Беларусі.

Чатыры папярэднія пілігрымкі, якія ладзіла таварыства св. Кірылы і Мятода, праходзілі на Украіне. Сёлета 12 аўтобусаў з розных гарадоў Украіны вырушылі ў накірунку славацкай вёскі Літманава, каб узыйсці працэсіяй са свечкамі на гару Цвірн, памаліцца на тым месцы, дзе бачылі дзяўчынкі з'яўленні, прыняць удзел у св. Літургіі візантыйскага абраду, памаліцца супольна з усімі ды разам з Іветкаю на ружанцы. І ўсё гэта адбывалася пасярод цудоўных, маляўнічых залатавосеньскіх горных краявідаў, напаўняючы душу супакоем, засяроджанасцю, цішынёй ды радасцю.

На зваротным шляху вернікі заехалі ў Прэшаў, дзе месціцца катэдра грэка-каталіцкага біскупа Яна Гіркі. Тут адбылася ўрачыстая паніхіда па грэка-каталіцкіх біскупах-мучаніках за веру Паўлу Гойдзічу ды Васілю Гопку, якія загінулі ад рук камуністаў.

Удзельнікі, стомленыя, але задаволеныя, раз'язджаліся па дамах, везучы з сабою багатыя ўражанні і надзею на новую сустрэчу з Літманавам ды з новымі сябрамі. І хоць колькасць удзельнікаў сёлетняй ружанцовай пілігрымкі з-за адсутнасці замежных пашпартаў была значна меншай, чым у папярэднія гады (тады яна сягала дзясяткаў тысячаў вернікаў), вопыт арганізатараў ды ўражанні ўдзельнікаў даюць надзею, што наступная пілігрымка ў Літманава будзе масавая, з удзелам шматлікіх вернікаў, у тым ліку з Беларусі.

*Менск-Львоў-Літманава*

**Васіль Санковіч**

# Не нам, не нам, Госпадзе...

*Працяг, пачатак на стар. 3*

Гэта ён патлумачыў тым, што большасць з евангельскіх цэркваў, якія на першапачатковым этапе дзейнасці Таварыства актыўна займаліся евангелізацыяй, цяпер будуюць храмы і ствараюць інфраструктуру.

У той жа час вельмі марудна пасоўваецца пераклад Бібліі на сучасную беларускую мову, прычынай чаго сп. Патупчык назваў перадусім недастатковую падтрымку гэтае справы з боку шырокіх хрысціянскіх колаў.

Асабліва цікава было пачуць на канферэнцыі прадстаўнікоў годнай славы Камісіі па перакладзе Новага Запавету на беларускую мову пры Беларускім Экзархаце Рускай Праваслаўнай Царквы. Айцец Сергій Гардун лічыць, што сучасная свецкая лексіка занадта скажоная заходнімі ўплывамі (асабліва польскімі), і зусім не ўнармаваная, а найвялікшыя праблемы існуюць у сферы багаслоўскае лексікі. Таму, пачынаючы з 1990 г., Камісія пераклала аж два Евангеллі — ад Мацвея і Марка, да таго ж апошняе яшчэ чакае свайго выдання. Цяпер нібыта, ідзе праца над Евангеллем ад Лукі. Тацяна Матрунчык упэўніла, што такая доўгая праца над перакладам апраўдваецца ягонай якасцю. Па словах сп-ні Матрунчык, Камісія жадае, каб пераклад Новага Запавету адпавядаў богаслужбовым і пастырскім патрэбам Беларускай Праваслаўнай Царквы, а пераклады, якія існуюць ужо цяпер, па розных прычынах не могуць быць прынятыя ў шырокі царкоўны ўжытак. І тое слова незразумелае, і гэнае не па-нашаму... Што ж тут казаць пра само богаслужэнне (Літургію яны таксама, нібыта, перакладаюць). Трэба вельмі асцярожна пераказаць вякамі намоленыя словы, бо «нашчадкі нам не даруюць». Як кажуць у народзе, не нам, дык дзецям нашым будзе, унукам. Так што, добрыя дзеткі беларусаў, чакайце Новы Запавет гадкоў праз дзвесце пры цяперашніх тэмпах моватворчасці шаноўных тлумачоў ад РПЦ. А пра Стары Запавет няма чаго і казаць. Хоць, апраўдваючыся, сп. Тацяна нагадала, што, маўляў, сербы ажно дваццаць гадоў свой Новы Запавет перакладалі.

Добра, калі бяруцца за пераклад Слова Божага. Але, каб казаць пра нейкі дасканалы варыянт, трэба мець студыйныя версіі, якія б мелі шырокі царкоўны ўжытак і абмяркоўваліся ў шырокіх колах грамадства. У гэтым сэнсе ўжо выдадзены Камісіяй пераклад Евангелля паводле Мацвея такі ж недасканалы, як і ўсе папярэднія, бо хто калі чуў (за рэдкім выключэннем) у нашых цэрквах беларускае слова? Дзе, акрамя каталіцкіх цэркваў, ужываюцца беларускія пераклады?

Прэзідэнт Біблійнага Таварыства Герман Родаў адзначыў працу святой памяці айца Яна Матусевіча, дэкана грэка-каталіцкіх парафіяў у Беларусі, які ў свой час быў адным з заснавальнікаў Таварыства. Пасада прадстаўніка Грэка-Каталіцкай Царквы ва ўправе гэтай грамадскай арганізацыі пакуль што застаецца незанятай.

**Сяргей Стасевіч**

*г.Менск*

# Лёс культурнай спадчыны Уніяцкай Царквы ў Беларусі

Святлана МАРОЗАВА



На працягу больш як двух стагоддзяў працай шэрагу пакаленняў беларускага народу былі створаныя самабытныя культурна-рэлігійныя каштоўнасці, звязаныя з дзейнасцю Уніяцкай Царквы. Яны сталі часткай нашай нацыянальнай культурнай спадчыны, але, на жаль, не знайшлі разумення і прыняцця тых, хто ў XIX ст. усталёўваў на беларускай зямлі вяршэнства праваслаўя. Духоўная пераарыентацыя на Усход, закліканая ўзмацніць палітычную інтэграцыю Беларусі ў склад Расейскай імперыі, суправаджалася знішчэннем культурнага набытку ўніяцтва. Нішчылася ўсякая мясцовая даўніна, якая не была падобная стылем да расейскай. Пры гэтым пераследаваліся не толькі рэлігійныя мэты — вынішчэнне ўніяцкай традыцыі, але і этнапалітычныя — перапісванне нашай гісторыі на новую, у якой памяці пра унію не знайма. У 1822 г. свацілавіцкія ўніяты зноў не дапусцілі навароту, хоць на дапамогу місіянерам прыбыла паліцыя. Яны заявілі, што з'яўляюцца фундатарамі гэтай царквы, пабудавалі яе ў памяць продкаў і наважаны памерці пры ёй, але ў іншую веру не аддадуць. Імператарскім загадам іх часова пакінулі ў спакоі.

Распараджэннем грэка-ўніяцкай калегіі 1830 г. ва уніяцкай царкве аднаўляўся ўсходні абрад. 7 лютага 1834 г. была прынятая пастанова пераабсталяваць храмы на ўсходні лад, забяспечыць іх кнігамі маскоўскага друку, зліквідаваць запазычанні ў заходнехрысціянскім духу. Выконваючы іх, біскуп Іосіф Сямашка ў 1835 г. загадаў на працягу года ўстанавіць у цэрквах іканастасы, у якіх уніяцкім абразам не было месца. Дзеля гэтата з расейскіх губерняў былі выкліканыя мастакі і майстры. рой, якія з розных прычынаў ухіляюцца ад збудавання іканастасаў, не даюць знішчаць лаўкі і званочкі; і гэтаму спрыяюць благачынныя. Некаторыя святары далі распіскі, што не ў стане пабудаваць іканастасы з-за беднасці фундушаў і адсутнасці царкоўных грошай. Тады абавязалі абшарнікаў унесці патрэбную суму, але тыя адмовіліся ад такой успамогі. "Самым шкодным святаром" стаўся Антон Самовіч: ён не прымаў ад паноў грошаў на іканастас, выконваў набажэнства па-ранейшаму ды распаўсюджваў чуткі, што ўладкаванне царквы на ўсходні абрад — гэта выдумка губернатара. Хутка ён быў асуджаны на двухтыднёвую эпітымію і зняты з пасады.

Калі сяляне і гараджане словам і справай выказвалі сваё негатыўнае стаўленне да парушэння традыцыйнага царкоўнага інтэр'еру, то святары рабілі шлося б месца. Культурныя каштоўнасці расейскага праваслаўя, што прышчэпліваліся замест зруйнаваных, мелі на мэце фармаванне ў беларускага народу адпаведнай самасвядомасці.

Пачатак сапраўднай вайне супраць спадчыны Уніяцкай Царквы быў пакладзены ў 1833-1834 гг., хоць заканадаўчая база падводзілася раней. Пачалі з ліквідацыі базыльянскіх манастыроў і іх навучальных установаў, якія мелі багатыя бібліятэкі і архівы. У 1828 г. на царскі загад была зачыненая свецкая базыльянская вучэльня ў Жыровіцкім манастыры, у 1835 г. — знакамітая сваімі выхаванцамі Барунская базыльянская школа. Кнігазбор і архіў базыльянаў гарадзенскага Барыса-Глебскага (Каложскага) манастыра напаткаў неблагі лёс — больш за тысячу тамоў кнігаў у 1870-я гг. перададзеныя ў Віленскую публічную бібліятэку, а стосы царкоўных дакументаў утварылі асобны фонд Беларускага дзяржаўнага гістарычнага архіву ў Горадні. Паперы Тадулінскага манастыра захоўваюцца сёння ў Нацыянальным гістарычным архіве Рэспублікі Беларусь у Менску. А колькі манастырскіх кніжных і дакументальных багаццяў было тады расфармавана, перавезена, згублена, спарахнела ў скляпах і на гарышчах, папсавана пацукамі, спалена. Усяго ў 1835 г. было скасавана 36 кляштараў з 81-го больш ці менш значных духоўна-культурных асяродкаў нашага краю.

Культавыя пабудовы, заснаваныя ў XVII-XVIII стст. як уніяцкія, пераводзіць на праваслаўныя пачалі яшчэ ў канцы XVIII ст. Гэты працэс ішоў у тры этапы і супадаў з урадавымі наступамі на унію ў 1780, 1794-1796 і 1830-х гг. У шэрагу выпадкаў вернікам часова ўдавалася адстаяць храмы. Адданасцю сваёй святыні ўвайшлі ў гісторыю сяляне в.Свацілавічы на Полаччыне. У 1800 г. раз'юшаны натоўп узброеных дубінамі людзей выштурхаў за вясковую ваколіцу праваслаўных місіянераў і прадстаўнікоў губернскай і земскай уладаў, што прыбылі для пераасвячэння іхняга храма.

Пераабсталяванне храмаў паводле праваслаўных канонаў выклікала неразуменне, непрыняцце, а то і абурэнне людзей. Народ дзівіўся, чаму тое, што яшчэ ўчора шанавалася, лічылася святым, дагодным Богу, сёння прыгнятаецца і забараняецца. А некаторыя бурна рэагавалі на ўсялякія змены іхніх традыцыяў. У 1834 г. рэзка скарацілася наведвальнасць сялянамі Голдаўскай царквы Навагрудскага павету пасля ўсталявання ў ёй іканастаса — многія пайшлі ў суседнюю Баброўскую царкву, дзе захаваўся ранейшы інтэр'ер.

У 1836 г. насельнікі маёнтка Рэчыцы Пінскага павету Менскай губерні, "не быв вразумлены приходским своим священником Хлебцевичем о долженствующем быть устроении в церквах униятских иконостасов", прысунулі да сцяны пастаўлены пасярод алтара сталец і падрыхтаваныя для іканастаса рамы. Як заўсёды ў такіх выпадках рабілася, на месца "надзвычайнага здарэння" прыбывалі чыноўнікі і ад імя губернатара даводзілі сялянаў да розуму. Да Рэчыцкай царквы было прыпісана больш за 600 вяскоўцаў, 238 з іх пасля адпаведнай апрацоўкі губернатарскімі пасланцамі "выказалі жаданне" далучыцца да праваслаўя. Астатнія засталіся адданымі уніі і яе каштоўнасцям. І ці не гэтыя засталыя супрацівіліся новаўвядзенню, пра што ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы захавалася цяжкадаступная сённня для беларускага даследчыка справа "Аб разбурэнні прыхаджанамі Рэчыцкай царквы іканастаса. 1836 г."

Святароў абавязалі даць распіскі аб адказнасці за пераабсталяванне храмаў на грэка-рускі манер, але шмат хто негатыўна сустрэў гэта і аказаў процідзеянне. Вайсковы начальнік Вілейскага і Дзісенскага паветаў пісаў полацкаму архібіскупу В. Лужынскаму ў 1836 г., што, нягледзячы на шматразовыя прадпісанні вышэйшага начальства, толькі ў 1/3 частцы цэркваў Дзісеншчыны зроблены іканастасы, а стальцоў і ў пятай долі няма з-за ўпартасці святагэта, як правіла, больш асцярожна і абачліва, бо за непадпарадкаванне свайму начальству пазбаўляліся прыходу.

Даволі шматлікім было апазіцыйнае духавенства ў Літоўскай епархіі, на захадзе Беларусі. Слонімскі земскі спраўнік даносіў у 1834 г. у Літоўскую духоўную кансісторыю на любішчыцкага святара Гамаліцкага, які, спасылаючыся на старасць і хваробы, адмаўляецца пераабсталёўваць сваю царкву. З-за супраціву духавенства і насельніцтва ўвядзенне іканастасаў у Гарадзенскай губерні зацягнулася, у сувязі з чым яе кіраўніцтва патрабавала ад чыноўнікаў і паліцыі "асаблівай на гэты конт клапатлівасці". Мясцовым уладам прыйшлося аказаць націск на святароў, прыхаджанаў і абшарнікаў, каб выканаць загад. Дзейны ўдзел свецкай адміністрацыі ў гэтых мерапрыемствах спарадзіў сярод сучаснікаў думку, што праводзіцца чарговая кампанія грамадзянскіх уладаў. Архібіскуп Сямашка вымушаны быў даваць тлумачэнні з гэтай нагоды, што рэформа здзяйсняецца епархіяльнымі ўладамі, якія дзейнічаюць "ни своим домыслом, ни самовольно", але выконваюць манаршую волю, выказаную ва ўказе 22 красавіка 1828 г.

У 1837 г. ваенных начальнікаў паветаў абавязалі сачыць і даваць штомесячныя справаздачы пра пераабсталяванне храмаў. Ды ўсё ж той жа восенню з Берасцейскага павету даносілі, што ў вёсках Астрамечы, Косіцы, Камяніца Жыровіцкая, нягледзячы на шматлікія запрашэнні, і "за многим настаиванием спеха не видно". У шэрагу цэркваў не было мясцовых абразоў, якія б замянілі выкінутыя ўніяцкія. Апошнія часцей за ўсё замяняліся на творы расейскіх мастакоў. Вандруючы ў 1841 г. з крыжам Еўфрасінні Полацкай, які да гэтага быў святыняй уніятаў, па Маскве ды Пецярбурзе, полацкі архібіскуп сабраў там вялікія ахвяраванні на пераабсталяванне храмаў сваёй епархіі.

Ачышчэнне Уніяцкай Царквы ад "лацінскіх скажэнняў" прадугледжвала знішчэнне скульптураў, бо пра-

васлаўе не прызнае аб'ёмных выяваў біблейскіх персанажаў. Але нялёгка было гэта ўкараніць у людскую свядомасць. Пакланенне былых уніятаў статуям святых анёлаў адзначана нават у другой палове XIX ст. Да 1865 г. у капліцы Моўчадскай царквы Слонімскага павету была статуя Антонія Падуанскага вышынёй у рост чалавека, якую працягвалі шанаваць праваслаўныя вернікі. На загад грамадзянскіх уладаў яе прыбралі, і на гэтае месца паставілі абраз прападобнага Антонія. "Літоўскія епархіяльныя ведамасці" за 1894 г. паведамілі, што і цяпер народ па-ранейшаму прыходзіць сюды на ўшанаванне А.Падуанскага і з глыбокай пашанай паглядае ў акно царкоўнага склепа, з якога відаць кавалкі статуі.

Рэшткі ўніяцкай атрыбутыкі (скульптуры, абразы, бакавыя стальцы з падсвечнікамі ды "пушкі") у наваствораных праваслаўных храмах выклікалі незадавальненне свецкіх і духоўных уладаў. Аглядаючы ў 1865 г. Горадзенскую губерню, генерал-губернатар Каўфман аддаў загад адправіць рэчы ўніяцкага царкоўнага побыту ў Літоўскую духоўную кансісторыю. Але мітрапаліт Іосіф Сямашка, зрабіўшы кар'еру на "ўз'яднанні", сакрэтна загадаў знішчыць іх пад наглядам благачынных. У 1870 г. духоўнае начальства выявіла ў шэрагу цэркваў Дзісенскага павету скульптурныя разныя выявы. Мітрапаліт Макары, наступнік Іосіфа, загадаў пазбавіцца іх спакваля, карыстаючыся, напрыклад, рамонтам або афарбоўкай царквы. Але "рэшткі лацінства" заставаліся ў многіх цэрквах і пазней. Яшчэ ў 1870-я гг. у іх трапляліся вельмі старыя ўніяцкія абразы, драўляныя скульптуры. Вынесеныя на загад епархіяльнага начальства з прыходскіх храмаў, многія ўпрыгожанні знайшлі прытулак у прыпісных і могільнікавых цэрквах, усе начынне якіх і ў апошняй трэці мінулага стагоддзя "аддавала уніяй".

Частка маёмасці ўніяцкіх храмаў (абразы, культавыя рэчы, царкоўная вопратка, харугвы, кнігі) была вывезеная ў суседнія касцёлы і там захоўвалася. Але пасля паўстання 1863 г. пачынаецца наступ і на касцёл. Любая знойдзеная там рэч з адзнакамі ўсходняй абраднасці магла стаць падставай для пераводу яго ў царкву. Таму ксяндзы пачалі знішчаць гэтыя "кампраметуючыя" рэчы: у 1860-я гг., напрыклад, іх палілі ў Дзісне і Друі, у 1880-я — у мястэчку Гармановічы Дзісенскага павету.

Яшчэ ў пачатку XX ст. у царкоўных званіцах, скляпах у пыле і брудзе, у спарахнелых шафах і скрынях рызніц знаходзілася шмат розных старажытных рэчаў: драўляныя скульптуры, кнігі, абразы, падсвечнікі.

Але вернемся да лёсу былых уніяцкіх цэркваў. Царкоўныя дзеячы і даследчыкі таго часу звярнулі ўвагу на беднасць, убоства, трухлявасць новаўтвораных, на месцы базыльянскіх храмаў, цэркваў. Як даносіў у 1842 г. у Сінод беларускі (смаленскі, віцебскі і магілеўскі) генерал-губернатар, "замест храмаў божых... больш падобныя на запусцелыя хаціны, напаўразваленыя, ледзь прыкрытыя саломай і, звыш таго, абстаўленыя халупамі сялянаў, так што погляд на такія цэрквы міжволі бянтэжыць душу праваслаўных жыхароў, якія спавядаюць веру, што пануе ў краі". Цэрквы гэтыя, як даносілі ў 1855 г. Мікалаю І, сваім вонкавым выглядам розняцца ад вясковых свірнаў толькі крыжам, усталяваным на даху. Убоствам і нядобраўпарадкаванасцю вылучаўся і інтэр'ер. Як пісаў тагачасны даследчык Ізвекаў, тое, што было наспех зроблена падчас уз'яднання, уражвала прымітыўнасцю. Іканастасы там, дзе яны былі ўсталяваныя, уяўлялі брыдкую, не пафарбаваную перагародку з дошак, на якой не было ніводнай іконы. Там, дзе і меліся абразы, жывапіс на іх быў агідны і не адпавядаў святасці намаляваных выяваў. А на некаторых іканастасах былі вельмі старыя ўніяцкія абразы. У далейшым патрэбы цэркваў задавальняліся, дзякуючы дапамозе з боку ўраду і добраахвотным ахвяраванням дабрачынцаў з цэнтральнай Расеі, асабліва з Масквы. Паводле статыстыкі 1857 г., у Літоўскай епархіі патрабавалася пабудова 22-х прыходскіх вясковых цэркваў, згарэлых, запячатаных ці зусім струхлелых, і капітальны рамонт або перабудова 290. Перабудоўваліся яны ў маскоўска-візантыйскім стылі. Не адзін дзясятак былых уніяцкіх храмаў, шэраг з якіх зменены да непазнавальнасці, стаяць і сёння на нашай зямлі.

Тыя экс-уніяты, што працягвалі наведваць сваю перахрышчаную на праваслаўе царкву, балюча ўспрымалі любыя нязвыклыя ім новаўвядзенні. Сяляне Старакорненскага прыходу Літоўскай епархіі выказалі незадавальненне тым, што звон робіцца не так, як раней. Яны ўварваліся ў званіцу, перавязалі звону "языкі" і сталі званіць па-ранейшаму, а служку, які гэтаму перашкаджаў, скінулі адтуль. А ў адным з прыходаў Сядлецкай губерні ў канцы XIX ст. адбыўся амаль анекдатычны выпадак — сяляне "адпалі назад у унію" пасля таго, як у іх царкве ўсталявалі ацяпленне, бо ўніяцкія храмы не абаграваліся. Яны заявілі, што "печка — гэта прыстасаванне для практыкаванняў чорта ў пекле".

У 1829 г. ва ўсе культавыя ўстановы Літоўскай правінцыі было накіравана паведамленне грэка-ўніяцкай калегіі, што яна лічыць неўласцівым грэцкаму набажэнству арганы і забараняе іх нанава ўсталёўваць у цэрквах. Рашучы наступ на арганы, лаўкі, званочкі, бакавыя стальцы распачаўся ў 1833 г.

31 ліпеня 1833 г. Сямашка выдаў загад пра продаж арганаў, якія знаходзіліся ў Жыровіцкім кафедральным саборы, таму што яны нібы "занимают напрасное место в соборе и безобразят вид онаго". Калі ж не знаходзілася пакупнікоў, іх трэба было разабраць і матэрыялы выкарыстаць для іншага прызначэння. З канца 1835 г. кампанія набывае масавы характар. Мясцовым уладам загадвалася прыбраць арганы, дзе яны ёсць, і адрапартаваць начальству да 1 траўня 1836 г. 11 лютага 1836 г. кансісторыя вызначыла трохмесячны тэрмін іх продажу. Арганісты пазбаўляліся службы ў царкве або прызначаліся на іншыя духоўныя пасады. З месцаў пачалі паступаць справаздачы пра выкананне загаду: ад лідскага, слонімскага, берасцейскага, кобрыньскага, пружанскага, ваўкавыскага, наваградскага земскіх спраўнікаў. У сакавіку гэтага года Сямашка піша гарадзенскаму губернатару, што арганы перашкаджаюць царкве, іх захаванне "могло быть поводом к соблазну", і даводзіць да яго ведама, што ў храмах Літоўскай епархіі яшчэ засталося 86 гэтых музычных інструментаў. Але справа ішла марудна. Народ не хацеў развітвацца з арганамі. Таму з другой паловы 1836 г. зусім забаранялася іх выкарыстанне.

Як успамінаў у 1836г. малады праваслаўны бацюшка, прысланы са Смаленска ў былы ўніяцкі прыход, ён прываблівае сялянаў у перахрышчаную царкву з дапамогай таннай сівухі. Такі пачастунак быў, паводле ягоных словаў, "славным средством для уловления сих отчаянных любителей "гарелцы".

Калі святар склікаў сялянаў на абедню, у яго спыталі:"А на варгане повинны б грать?" На што ён адказаў: "Не, некому, детуньки, некому... Почекайте! Я привезу от Полотська органиста..." Але з тых часоў ніхто з іх не прыходзіў да яго на імшу, як успамінаў протаірэй, таму што "варган молчит". "Так тянулось до вербного воскресенья, а отсюда всё пошло по маслу. Прихожане уважили Казённую Палату, которая стала угощать их лучше меня — палками".

Пазбаўленне беларускіх уніятаў велічнай музыкі, сугучнай настрою набажэнства, сталася адной з тых падставаў, якія схілілі частку насельніцтва да каталіцтва. Так, прыхаджане царквы м. Крывічы Вілейскага павету адышлі да касцёлу пасля скасавання уніі, "знаходзячы сабе духоўную ўцеху ў велічным касцёле з гучным арганам".

Ужо ў пачатку XX ст. невядомы аўтар, заклапочаны заняпадам у заходніх губернях імперыі праваслаўя, раіў на старонках "Царкоўнага весніка"(за 1906 г.) выправіць зробленую памылку шляхам дапушчэння ва ўжытак праваслаўнай царквы Беларусі музыкі — "прыемнай асаблівасці старадаўняй веры беларусаў", скасаванай па-за яго воляй і згодай. Гэта было б справядлівым аднаўленнем таго, да чаго беларусы набылі векавую звычку яшчэ ў часы уніі.

Выкараняліся ўніяцкія набажэнскія спевы. У 1867 г. расследавалася справа пра спяванне прыхаджанамі Кляшчэльскай праваслаўнай царквы Бельскага павету ўніяцкіх псальмаў.

Пастановамі 30-х гг. XIXст. адмяняліся ўсе абрады, неўласцівыя Расейскай Царкве. У 1835 г. было забаронена адступаць ад "абрадаў рускага набажэнства... зліквідоўваючы па магчымасці... навіны, праціўныя духу... устанаўленняў Царквы ўсходняй". Але святары тайна выконвалі ў далучаных да праваслаўя прыходах старыя абрады.

Калі святары Пераваланчнянскай царквы ў 1839 г. рабілі хросны ход паводле праваслаўнага абраду, то народ не пайшоў за імі, узняўшы лямант. Не дапамаглі яго супакоіць ні ўшчуванні духавенства, ні прыбыўшы на месца здарэння жандар. Расследаванне паказала, што людзі разглядаюць змену ранейшых абрадаў як змену важнейшых канонаў уніяцтва. "Неизменное удерживание в униатских церквах прежних отступлений и римских нововведений,— пісаў у 1836 г. з Пецярбурга граф Пратасаў,— сильно действует на умы возвратившихся в православие простолюдинов, которые, видя немалую разницу между богослужением униатским и греко-российским, ослабевают в верований и убеждении, что прежняя вера их есть почти та же, что православная, и отпадают в унию".

Але, нягледзячы на ціск духоўных і свецкіх уладаў, народ яшчэ доўга захоўваў прыхільнасць да сваіх абрадаў, байкатуючы пры гэтым абраднасць, што навязвалася яму звонку. Таму выкараненне "даўніны" расцягнулася на дзесяцігоддзі.

Працяг на стар.12-13

# Лёс культурнай спадчыны Уніяцкай Царквы ў Беларусі

*Працяг, пачатак на стар. 10-11*

У 1859 г. мясцовая жандармерыя інфармавала вышэйшыя інстанцыі пра"ўпартасці, асабліва што да хросных ходаў", былых уніятаў Гарадзенскай губерні, якія жывуць у суможных раёнах з Каралеўствам Польскім. Прыхаджане Кляшчэляў ды шэрагу іншых вясковых прыходаў на патрабаванне епархіяльнага начальства рабіць хросны ход паводле праваслаўнага звычаю пачалі наракаць, і да 160 чалавек сталі ўхіляцца ад наведвання царквы. Яны адмаўляліся ўдзельнічаць у такіх працэсіях, гаворачы, як бацькі іх і дзяды хадзілі па сонцу, так і яны не пойдуць супраць сонца; што ісці ў такім ходзе значыць ісці супраць Хрыста.

Адмене падлягалі святы, якіх няма ў Праваслаўнай Царкве. Замест запазычанага ў каталікоў свята Божага Цела, да якога народ меў асаблівую прыхільнасць, В.Лужынскі прыдумаў і ўвёў новае — свята ў памяць уз'яднання ўніятаў.

Схільнае да змены веры уніяцкае духавенства раптам сутыкнулася з нечаканай перашкодай — з рызыкай быць абсмяяным тутэйшым жыхарствам з прыняццем аблічча расейскага папа. Даючы ў 1833-1834 гг. падпіскі пра згоду прыняць праваслаўе, святары агаворвалі за сабой права галіць бараду і стрыгчы на галаве валасы паводле свайго звычаю, насіць уніяцкае святарскае адзенне, паколькі барада і раса былі ў вялікай пагардзе ў краі. Прымаючы да ўвагі, што "ў барадзе рэлігіі няма", урад пайшоў насустрач — нейкі час не патрабавалася яе "адгадоўваць", было дазволена пакінуць і ранейшае адзенне. Разлік быў на тое, што, не заўважыўшы вакол сябе ніякіх зменаў, вернікі пагодзяцца з далучэннем іх духавенства да грэка-рускай Царквы.

Падлягаў выкараненню шырока распаўсюджаны звычай даваць пры хрышчэнні імёны святых, шанаваных Уніяцкай Царквой. Святароў абавязалі называць нованароджаных толькі іменамі, унесенымі ў праваслаўныя святцы. У 1843 г. перайменавалі вучняў Літоўскай семінарыі, чые імёны не ўпісваліся ў дазволеныя расейскія праваслаўныя нормы.

Разам з гэтым выганялася з царквы яе галоўная каштоўнасць — беларуская мова, якая замянялася на расейскую. У 1830 г. у час рэвізіі Беларускай і Літоўскай епархій звярталася асаблівая ўвага на веданне апошняй шараговым духавенствам. І хоць царскім загадам 16 снежня 1839 г. прыходскім праваслаўным святарам Беларусі і Украіны прадпісвалася, каб яны "па магчымасці чыталі ў цэрквах у нядзелю і святочныя дні казані простай агульназразумелай мовай", яе дапушчэнне ў набажэнства не з'яўлялася самамэтай, а было заклікана пераконваць былых уніятаў, што праваслаўе — вера іх продкаў і служба ў ім адбываецца "зразумелая на роднай мове". Тым не менш, М.Гарэцкі ў сваёй "Камароўскай хроніцы" занатаваў успаміны аднаго старажыла пра скасаванне уніі ў 1839 г.: "'І тады клопату набраліся, калі хто хацеў жаніцца, а ня ўмеў маліцца па-руску. Поп не вянчаў або дужа вялікія грошы браў. Хадзілі да аднэй бабы, што ўмела маліцца па-руску. У яе вучыліся. Адзін вянчальнік хацеў ашукаць папа, пачаў мармытаць: "Міцца, сына... Міцца, сына... Верую, верую..." Поп прагнаў яго".

Больш таго, паслабленне беларускай мове, зробленае ў 1839 г., цяжка ўзгадняецца з загадам Сямашкі ад 1840 г. забяспечыць святароў Літоўскай епархіі ўзорнымі казанямі на расейскай мове, каб яны былі ў стане "ў сваіх павучаннях на простанародных тамашніх гаворках дапасоўвацца да агульнага духу расейскай мовы".

Нягледзячы на адміністрацыйны ціск, у 60-90-я гг. мінулага стагоддзя ў шэрагу праваслаўных цэркваў заходніх паветаў Беларусі таемнасці хрышчэння, вянчання, пахавальны абрад выконваліся паводле ўніяцкага звычаю, захоўваўся звычай даваць дзецям традыцыйныя імёны, а тайныя ўніяцкія прыходы падтрымлівалі і зберагалі беларускую мову. Яшчэ ў канцы 1880-х гг. традыцыяў уніі трымалася бальшыня насельніцтва Гарадні і яе ваколіцаў, у дамах прыхаджанаў захоўваліся ўніяцкія абразы і адзначаліся свае святы (напрыклад, св. Язафата), паводле ўніяцкага звычаю хрысціліі дзяцей.

Богаслужэбныя кнігі беларускіх уніятаў — сёння вялікая рэдкасць. Абсалютная большасць загінула яшчэ ў 30-50-я гг. XIX ст. ад рук тых, хто ўсталёўваў грэка-рускае праваслаўе. Паход супраць уніяцкай кнігі — "крыніцы іншавер'я ды іншадумства" — пачаўся яшчэ ў канцы XVIII ст.

Імператарскім указам 1787 г. дазвалялася друкаваць і прадаваць малітоўнікі і іншыя царкоўныя кнігі толькі духоўным друкарням, падкантрольным Сіноду. У сувязі з узятым у 1794 г. Кацярынай ІІ курсам на скасаванне уніі, паўстала пытанне пра друкарскую дзейнасць пачаеўскіх базыльянаў, ад якой, баяліся, "особливо между простым народом могут происходить возражения, не соответствующие желаемому преклонению жителей от унии к благочестию". Пачаеўскія выданні распаўсюджваліся і чыталіся на Беларусі, пра што сведчаць спісы бібліятэк тутэйшых базыльянскіх кляштараў. Друкарні тады было дазволена выдаваць кнігі на ўзор тых, што друкуюцца ў Кіева-Пячорскай лаўры, з дадаткам, дзе трэба, сімвалу веры "по униатскому их умствованию", месяцаслова з імёнамі шанаваных Уніяцкай Царквой святых і з імем Папы Рымскага. Што датычыць выдадзеных у Пачаеве кнігаў з такімі назвамі, якіх няма ў Праваслаўнай Царкве, іх належала дасылаць у Сінод на разгляд, "нет ли в них особливых каких униатских усиливающихся явно против исповедания православныя нашия церкви умствований, или к суеверию и соблазнам относящихся выражений". У XIX ст. святарам забаранялі купляць для прыходскіх цэркваў кнігі пачаеўскага друку.

Указам Сенату 1826 г. быў абмежаваны продаж усіх уніяцкіх служботнікаў. У 1828 г. усе выдавецтвы падпарадкоўваліся духоўнай цэнзуры. Пастановай грэка-ўніяцкай калегіі ад 7 лютага 1834 г. усіх святароў абавязалі карыстацца толькі служботнікамі і кнігамі малітоўных спеваў, надрукаванымі ў маскоўскай сінадальнай друкарні адпаведна ў 1826 і 1831 гг. Каля трох тысячаў такіх выданняў было загада на адправіць у Беларусь па памяркоўным кошце. Але адны святары вярталі прысланыя кнігі назад, іншыя, пакінуўшы іх, у набажэнстве не выкарыстоўвалі. З месцаў пачалі паступаць масавыя пратэсты супраць уводзення новых служботнікаў. Знайшоўшы ў іх адрозненні ад сваіх, друсенскае і себежскае духавенства прасіла пазбаўлення "ад безумоўнага прыняцця і даслоўнага карыстання" імі. У 1838 г. 111 святароў Беларускай епархіі звярнуліся з прашэннем да цара пра захаванне уніі і ўладкаванне друкарняў для выдання уніяцкіх набажэнскіх кнігаў. Яны прапаноўвалі самі выдаткаваць грошы на гэтыя патрэбы. Але на неслухаў абрынуліся рэпрэсіі. Адных паддавалі эпітыміі. Клірыкаў, не згодных прыняць новыя служботнікі, пераводзілі ў дзякі і нават служкі. Паліцыі было даручана сачыць, каб святары прытрымліваліся новых кніжак і ад іх не адступалі.

У 1834 г. ва ўсе парафіі Літоўскай епархіі паступіў загад — адабраць з цэркваў старыя ўніяцкія служботнікі ды іншыя кнігі пачаеўскага, віленскага і супрасльскага друку і выслаць іх у Літоўскую духоўную кансісторыю. Толькі старым святарам, не здольным асвоіць новыя псалтыры ды малітоўнікі, і тым, хто, прыкрываючыся гэтым, не хацеў "граць пад маскоўскую музыку", часова былі пакінутыя старыя кнігі.

У 1836 г. полацкі архібіскуп Лужынскі распарадзіўся адабраць ад святароў сваёй Беларускай епархіі ўніяцкую духоўную літаратуру. Але ў час чарговай рэвізіі ён не знайшоў ні ў адной з наведаных 16-ці цэркваў пасланых туды маскоўскіх служботнікаў і пераканаўся, што ўсе святары так і не развіталіся са старымі кнігадрукамі. Святар Пршэброўскай царквы хаваў новую кнігу ў кладоўцы. Сенненскі благачынны Квяткоўскі, атрымаўшы маскоўскі служботнік, у прысутнасці людзей кідаў яго на зямлю, гаворачы пры гэтым дзёрзкія словы ў адрас епархіяльнага начальства, якое прымушае па ім служыць. Святар Ліскоўскай царквы Арашкевіч на пытанне, чаму ён карыстаецца забароненай кнігай, а не новай, адказаў: "Сумленне маё мне не дазволіла гэтага". Ён, як і іншыя, што супрацівіліся "найвышэйшай волі", быў аддадзены суду Беларускай кансісторыі.

18 чэрвеня 1839 г. Літоўская кансісторыя выдала пастанову пра зняцце трэбнікаў мінулага друку з ужытку. Іх звозілі ў Жыровічы. Але ўжо ў жніўні ўзнікла праблема — што з імі рабіць? Вырашылі спаліць, пакінуўшы па 1-2 асобнікі кожнага выдання для бібліятэкі Літоўскай епархіяльнай семінарыі. У 30-50-я гг. на загады літоўскага біскупа (а потым мітрапаліта) Сямашкі адбылося некалькі аўтадафэ ў Жыровічах і Вільні. За адзін раз была спалена 201 кніга, за 3 гады — больш як дзве тысячы.

Ўратаваныя ад знішчэння кнігі выкарыстоўваліся ў набажэнстве, прыхільным да уніі духавенствам. Святар Крайскай царквы Кіпрыяновіч быў пакараны двухтыднёвай эпітыміяй у манастыры за служэнне па старой кнізе пры наяўнасці новай. У Лідскім і Ашмянскім паветах у 1852 г. набажэнства праводзілася па кнігах уніяцкага друку. 30 траўня 1852 г. Сенат распарадзіўся канчаткова забараніць выкарыстоўваць уніяцкую літаратуру. У 1852-1853 гг. паўтары тысячы яе асобнікаў, тады яшчэ сабраных па цэрквах і манастырах, былі спаленыя. Тым не менш... У час рэвізіі цэркваў Кобрыньскага павету ў 1856 г. было

знойдзена 16 уніяцкіх службоўнікаў, па якіх праводзілі набажэнства тамашнія святары. Адзін з іх адмовіўся выдаць кнігу, за што быў выкліканы на эпітымію ў Вільню. Нават у 1865 г. мітрапаліт Іосіф звяртаў увагу Сіноду на выкарыстанне даўно забароненых кнігаў. Яго наступнік Макары працягваў выкараняць рэшткі уніяцтва. Паводле звестак В. Ластоўскага, яшчэ ў 1860-я гг. на Беларусі ды Украіне выдаваліся загады пра паленне кнігаў уніяцкага выдання, якія дагэтуль дзе-нідзе захоўваліся на званіцах.

Такім чынам, культурная спадчына Уніяцкай Царквы ў значнай ступені страчана не натуральным шляхам, а ў выніку мэтанакіраванага знішчэння. За 2-3 дзесяцігоддзі зруйнавана шмат з таго, што было створана ў папярэднія два з паловай стагоддзі. Але зламаць моцную ўніяцкую культурна-рэлігійную традыцыю, што працяла ўсе сферы людскога жыцця, было нялёгка. Урад і духоўныя ўлады сустрэліся з вялікімі цяжкасцямі, выкліканымі праявамі нацыянальнага і рэлігійнага патрыятызму. Тыя каштоўнасці, што ўдалося зберагчы, працягвалі жыць, выкарыстоўвацца і шанавацца тайнымі прыхільнікамі ўніяцтва.

У 1830-1850-я гг. адбылося знішчэнне магутнага пласта беларускай культуры, што, у сваю чаргу, абмежавала даследчыкаў у вывучэнні яе мінулага. Уніяцкія абразы, кнігі, скульптуры ды іншыя рэчы — сёння рэдкія і ўнікальныя экспанаты ў музеях і бібліятэках Беларусі. Не менш рэдкая і ўнікальная з'ява ў нашым жыцці — беларуская мова, названая калісьці К. Гаворскім "униатским наречием". Непапраўныя разбуральныя наступствы для нацыянальнай культуры, якія сталі следствам гвалтоўнага скасавання Уніяцкай Царквы ў Беларусі, на доўгія дзесяцігоддзі вызначылі развіццё нашай краіны.

***Спадчына, № 6, 1996***

***Крыніцы і літаратура:***


Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 1430, воп. 1, спр. 4475, арк. 1; ф. 3245, воп. 2, спр. 445, арк. 2 -19адв.; спр. 538, арк. 20.

Беларускі гістарычны архіў у Горадні, ф. 1, воп.6, спр. 873, арк. 1-4; воп. 19, спр. 1005. арк. 5-8; спр. 1364, арк 17адв.; 45, 46; спр. 1752, арк. 11; воп. 27, спр. 693, арк. 1; спр.708, арк. 261-265; спр. 714, арк. 2-19адв.; спр. 1747, арк. 5-5адв., 120-121.

Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы ў Вільні, ф. 634, воп. 2, спр. 401.

Рукапісны аддзел бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта, ф. 3, спр. 155, 156/III.

Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны ў Львове, ф. 201, воп. 4, спр 1878, арк. 1, 2-2адв.1 спр. 2021, арк. 10адв.

Дзяржаўны гістарычны архіў Расеі ў С.-Пецярбургу, ф. 824, воп. 1, спр. 36, арк. 1-1адв., 5; спр. 109, арк. 1-2.

Дзяржаўны гістарычны архіў Расеі ў Маскве, ф. 109, воп. 2, спр. 311, арк. 2; 1 экспедыцыя, 1837 г., спр. 23, арх. 19-22адв.; 1842 г., спр. 29, арк. 5адв.; 1859 г., спр. 264, арк. 5-5адв., 14 адв.-17.

Расейскі дзяржаўны архіў старажытных актаў у Маскве, ф. 18, спр. 321, арк. 3-4.

Акты, издаваемые Виленской Археографической комиссией. — Вильно, 1889. Т. 16.— С. 112, 653-654.

Описания документов архива западнорусских униатских митрополитов.— СПб., 1907. Т. 2.— С. 1098-1099.

На униатском приходе. // Чтения в императорском обществе истории и древностей российских при Московском университете.— М, 1910, кн.I. 1909, ч.II, с. 5-6.

Записки Василия Лужинского, архиепископа полоцкого. Казань, 1855.

Записки Иосифа, митрополита Литовского.— СПб., 1883, в 3-х т.

Церковный вестник.—Вильно, 1906. № 47.— С. 1541.

В-ст (Ластоўскі В.). Паленьне кніг на Беларусі. // Крывіч. 1924. № 1.— С.61.

Гарэцкі М. Збор твораў. У 4-х т.— Мн., 1986. Т. 4.—С. 9.

Горючко П. С. Из истории воссоединения униатов в Белоруссии. 1795—1805 г.— Киев, 1902.

Извеков Н. Д. Исторический очерк состояния православной церкви Литовской епархии за время 1839—1889 гг.— М., 1899.

Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединения западно-русских униатов с православною церковью в 1839 г.— Вильно, 1893.

Логанов Н. А. Униатские дела в воспоминаниях А.Ф.Кони и в действительности.— Седлец, 1913.

Шавельский Г. Последнее воссоединение с православной церковию униатов Белорусской епархии (1833—1839 гг.).— СПб., 1910.


# ЗАБЫТАЯ СПАДЧЫНА

У вёсцы Падгорная (раней Гавенавічы), што ў Баранавіцкім раёне, ёсць царква, у якой збіраюцца праваслаўныя вернікі. Гэтаму каменнаму збудаванню цяпер будзе ўжо 200 гадоў. Пра гэтую царкву ходзіць шмат легендаў, але сапраўдная гісторыя яе невядомая. Таму я, канешне, не без пэўнай асновы, прапаную сваю версію.

Царква была пабудаваная ў «1817 roku», як напісана гэта на камені ў сцяне храма. Была яна менавіта ўніяцкая (грэка-каталіцкая). Гэтыя гады былі вельмі цяжкія для Уніяцкай Царквы, бо цар Мікалай I прыкладаў усе сілы для таго, каб знішчыць яе. Але доўгі час Гавенавіцкую царкву выратоўвала тое, што вёска знаходзілася сярод лясоў і балот, і царскія «місіянеры» не дабіраліся да яе.

Пра тое, што царква гэтая была менавіта уніяцкая, ёсць шмат доказаў. Папершае, трэба паглядзець на тое, як яна збудавана. Высокія сцены, дах нагадвае гатычны стыль. Па-другое, традыцыя чытаць Евангелле тварам да людзей, спяванне захоўвалася тут нават да нядаўняга часу. Але самае галоўнае тое, што храмавае свята ў гонар св. Антонія Пячэрскага 23 ліпеня паводле старога стылю (10 чэрвеня — паводле новага) да 1989 году тут не адзначалася! Атрымлівaецца, адзначалася другое. Антонія — кажуць людзі. Але вось якога Антонія? Гэтую загадку раскрывае дзень святкавання храмавага свята — 13 чэрвеня. На гэтую дату якраз выпадае дзень св. Антонія Падуанскага — каталіцкага святога! Прычым людзі кажуць, што калісьці гэтае свята адпраўлялася вельмі ўрачыста, што вернікі збіраліся нават з суседніх вёсак. Дапусцім, што гэта дзень залажэння царквы (у дзень памяці св. Антонія Падуанскага). І яшчэ: антымінс — плат, на якім служыцца св. Літургія — вельмі стары, з часоў Уніі. Кажуць, на ім нават пазначаны год — 1829...

Вартая ўвагі гісторыя, якая адбылася тут ужо ў нашы часы. З 1989 году настаяцелем (парахам) гэтае царквы быў святар — прыхільнік адзінства хрысціянаў. Калі ж ён правёў малебен, у якім удзельнічалі каталікі рымскага абраду, асобныя вернікі, спачатку згодныя з ім, пасля паднялі бунт. Яны сцвярджалі, што «ніколі такога не было, каб тут былі каталікі». А на словы Хрыста «каб усе былі адно» (Ян 17, 21) адказвалі: «не гаварыў такога Хрыстос», «мы — праваслаўныя», а «цэркаў народная» і г.д. Самае цікавае, што гаварылі так тыя, хто насіць такія распаўсюджаныя сярод каталікоў і ўніятаў імёны, як Паўліна, Часлава...

На свята Святога Духа гэтыя «актывісты» закрылі ад таго святара дзверы ў царкву на два замкі. А ў хуткім часе на Купалле пасля ўрагану на купале царквы пакасіўся крыж... Пазней, ужо пры іншым святару, адна з тых жанчынаў, як казалі людзі, падыходзіла да прычасця. Дык здарылася так, што св. Дары, мінуючы плат, упалі на падлогу... Напэўна, так сам Госпад падаваў гэтым людзям знакі, але яны не звярнулі на іх увагі.

Я ж хачу сказаць пра тое, што беларусы, на жаль, вельмі хутка забываюцца пра сваю веру, культуру, мову. І калі мы не будзем захоўваць усё гэтае, яно можа знікнуць і вярнуць ужо будзе позна.

**Лявонці, 13 гадоў**

*Баранавіцкі р-н*



*Дзень добры, шаноўнае спадарства! Слава Ісусу!*

*Прапаную вашай увазе свае вершы. Мажліва, надарыцца нагода, і для іх знойдзецца месца на старонках газеты.*

*Жадаю вам моцнага здароўя і поспехаў на ніве адраджэння нашай Бацькаўшчыны і веры!*

**Янка Лагвіновіч**

*г.Баранавічы*

## Малітва

Хоць і не дарогаю Ісуса
(Іншы мне выносіўся прысуд),
Я адзін з няшчырых беларусаў,
Цяжкі крыж гаротніка нясу.
Не прашу, о Госпадзе, збавення,
За сясцёр малюся, за братоў:
Ты пашлі, няшчасным, прасвятленне,
Хай нарэшце ўбачаць, хто ёсць хто.

## Зорка

Хрысціянская зорка
каляднай пары
над раўнінаю золкай
спакон веку гарыць.
Разгадаць не бяруся
таямніцы святла,
што па ўсёй Беларусі
з вышыні праліла.
Не адводзячы погляд,
я гляджу на яе,
і імкнуцца да Бога
спадзяванні мае.

## Чакаць і верыць

Акно ў нябёсы адчыніў —
і жураўля свайго чакаю,
не наракаю, не гукаю
і не адпуджваю сініц.

Хрыстос цярплівасці вучыў
дзеля лагоды неўміручай;
і я, Ягоны сціплы вучань,
гляджу так пільна ў далячынь.

За светлы міг жыцця плаціць
даводзіцца высокай мерай.
Не наракаць, чакаць і верыць —
і журавель мой прыляціць!

## Голас Ісуса

Калі хоча хто ісці за Мною,
ад сябе спачатку адрачыся,
крыж вазьмі свой, крыж выпрабаванняў —
ды й ідзі цярпліва ўслед за Мною.

*(Паводле Лк 19, 23)*



*Добры дзень, паважаная рэдакцыя!*

*У адказ на заклік прыняць удзел у дыскусіі па праблемах БГКЦ, пасля знаёмства з лістамі вернікаў выpaшыў таксама выказаць свойпункт гледжання.*

*Па-першае, я далучаюся да пазіцыі Уладзіміра Гундара з Баранавічаў адносна ягоных заўвагаў па змесце артыкула сп.К.Нявяроўскага (гл. «Царква», № 3, 1998, с.15).*

*Па-другое, ніяк не магу пагадзіцца са сп.Андрэем Латышом з Полацка, які сцвярджае, што БГКЦ павінна прытрымлівацца юльянскага календара, і тады будуць улічаныя «існуючыя цяпер нацыянальныя традыцыі беларусаў». Цікава, якія з іх мае на ўвазе аўтар? Добра напіцца на Каляды, яшчэ лепш на Вялікдзень ды Радаўніцу? Шаноўны сп.Андрэй! Не ўлічваць падобныя «традыцыі» праваслаўных атэістаў, якіх у нас каля 80% насельніцтва, не падаецца мне вялікім грахом. Адносна «традыцыяў» вельмі дарэчы будзе прачытаць Вам і тым, хто думае, як Вы, артыкул «Расейскае праваслаўе ў святле сацыялагічных даследаванняў» («Царква», №3, 1997, с.5). Акрамя таго, не залішне было б згадаць і тое, што скідалі крыжы, пляжылі бульдозерамі святыя месцы і разбуралі храмы самыя праваслаўныя. Таму мы сёння і маем тое, што маем. Вось вам і традыцыі. А па сутнасці, на мой погляд, тут увогуле няма падставы для спрэчак, бо пытанне календара так бы мовіць штучнае і прыцягнутае за вушы. Астранамічна больш дакладны менавіта грыгарыянскі каляндар, а не юльянскі. Не будзем забывацца, што БГКЦ — частка адзінай паўсюднай Царквы, а не праваслаўнай. Таму і спрачацца тут няма з-за чаго. Калі ўжо Госпад Бог стварыў сусвет і даў людзям розум і навукі (у тым ліку і астраномію), то якія ж мы вернікі, калі будзем пярэчыць здароваму сэнсу і Творцы? Таму меркаванне наконт таго, што выкарыстанне грыгарыянскага календара пашкодзіць павелічэнню колькасці вернікаў не павінна нас турбаваць. Праз некалькі гадоў усё можа стацца якраз наадварот. А калі і не, што з таго? Мы выбралі сваё — БГКЦ! Навошта цяпер паступацца прынцыпамі і праўдаю, каб дагадзіць натоўпу? У нас і так багата праблемаў — ніводнага храма не маем у адрозненне ад тых, каго мы называем братамі-хрысціянамі, якія з'яўляюцца імі з пэўнай доляй умоўнасці.*

*Некалькі словаў пра іншае: архітэктуру, унутраны інтэр'ер грэка-каталіцкай царквы, абрады і працягласць набажэнстваў. Каб кампетэнтна разважаць і рабіць прапановы, трэба быць добрым знаўцам гэтых рэчаў. Але спачатку павінна быць выпрацавана агульная стратэгія — на што абапірацца і чым кіравацца. На мой погляд, трэба абаперціся, як і прапаноўваюць многія вернікі, на тую спадчыну, што захавалася ад старой беларускай Уніі. А кіравацца трэба здаровым сэнсам. Пры гэтым нам трэба памятаць, што традыцыя — рэч добрая, але калі яна не ўдасканальваецца ў адпаведнасці з сучаснасцю, то робіцца незразумелай, ператвараецца ў забабоны і, урэшце, выклікае насмешку, а пасля і зусім памірае. Гэтым абумоўлены прагрэс.*

*Якім бы мне хацелася бачыць наш грэка-каталіцкі храм? З пункту гледжання архітэктурнага стылю — гатычны стыль храмаў на Захадзе занадта гостры, халодны і строгі, каб адпавядаць нашай ментальнасці. З другога боку — псеўда-расейскі стыль праваслаўных храмаў з вялікімі цыбулінамі купалоў, якія нібыта грыбы пасля дажджу, вытыркаюцца над дахам і не выконваюць пры гэтым ніякай кантструктыўнай функцыі, акрамя сімвалічнай, таксама не прываблівае. Нядрэнным быў і адпавядаў свайму часу стыль віленскага барока, у якім была пабудавана значная частка храмаў у Беларусі. Таму, на мой погляд, нашым архітэктарам трэба выпрацаваць «наш» стыль з апораю на спадчыну — віленскае барока. Гэта павінна быць гарманічная і прапарцыйная (у адпаведнасці з правілам залатога сячэння) пабудова, што імкнецца ў высь, светлага колеру з узважанымі (строга-мяккімі) абрысамі.*

*Прыкладам унутранага інтэр'еру мне бачыцца Андрэеўскі касцёл у Слоніме. Шмат святла, строгасць, велічнасць і ўтульнасць адначасова. Ніякіх груваcткіх іканастасаў, звонкае чыстае паветра. З такога храму не хочацца выходзіць. Што б ні казалі супраць лацінізаванага стылю ва ўбранстве царквы, але ж ён значна пераўзыходзіць артадаксальны праваслаўны. Гэта відавочна кожнаму, хто мае хоць кроплю пачуцця меры. На маю думку гэта, напэўна, тлумачыцца тым, што інтэр'ер касцёла ў значнай меры адпавядае сучаснаму еўрапейскаму ўяўленню аб прыгажосці (удасканаленая традыцыя), у той час як у праваслаўнай царкве інтэр'ер амаль не мяняецца стагоддзямі і тоіць у сабе дух даўно мінулых цьмяных вякоў. Гэта цудоўная якасць — але для музея! На чалавека ж такі інтэр'ер ціснe.*

*І яшчэ аб адным. Гандаль свечкамі ў царкве, як і іншымі рэчамі рэлігійнага зместу,— цудоўнае «вынаходніцтва» праваслаўя, якое спарадзіла ПРЭЙСКУРАНТ на паслугі, разбэшчвае святароў ды парафіянаў. Хрыстос, як памятаеце, павыганяў гандляроў з храму. Нашыя ж праваслаўныя царкоўныя служкі самі зрабіліся гандлярамі. Такога быць не павінна. Я, вядома ж, не супраць выкарыстання свечак, агонь якіх тоіць у сабе сакральны змест, але лічу, што ўсяму павінна быць мера і сваё месца.*

*Працяглая літургія паводле праваслаўнай традыцыі ўжо даўно не адпавядае сучасным патрабаванням жыцця. Шматгадзіннае стаянне ў перапоўненым храме ператвараецца ў геройскі ўчынак. Пад канец набажэнства вернік ужо не адчувае ног, цішком змахвае пот ды жагнаецца не заўжды ўпапад, бо ўжо не чуе, што кажа святар,— ён проста не ў стане засяродзіцца. Пах сотняў згараючых свечак змяшаны з людскім потам утварае цяжкое паветра, якім цяжка дыхаць. А калі вы ўзялі з сабой дзяцей?! Як пасля такіх набажэнстваў заахвоціць іх да Царквы? Рыма-каталікі маюць значна карацейшы абрад і ў ім прымаюць удзел усе вернікі разам, як адзін, умацоўваючы тым самым падсвядома сваю еднасць.*

*Добра паразважаўшы, прыходзіш да высновы, што абраднасць мае выключна вялікае значэнне. І ў нас ёсць добрыя прыклады, выкарыстаўшы якія можна зрабіць так, каб верніку ў храме было добра, дзе ён адчуе цудоўнае пачуццё радасці ад еднасці з іншымі вернікамі і дзе ён зможа адчуць прысутнасць добрага, літасцівага Творцы.*

*Вось такія мае думкі. Спадзяюся, што іх падзяляюць і іншыя вернікі. Ёсць яшчэ шмат пытанняў, якія патрабуюць абмеркавання, але гэта, напэўна, тэмы для наступных гаворак.*

*З пажаданнямі плёну ў адраджэнні Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы*

**Валеры Савіч**

*г.Пінск*



*Слава Ісусу Хрысту!*

*Прывітанне, паважаная рэдакцыя газеты «Царква»! Спачатку прыміце шчырую падзяку за газету, якую вы робіце!*

*Хачу выказацца ў абарону абраду, які існаваў у нашай Царкве да яе гвалтоўнага знішчэння. Менавіта гэты абрад найбольш, на маю думку, дасць адметнасць нашаму народу ды захавае нашу самабытнасць. Не трэба баяцца расколу, як некаторыя думаюць, бо ўсім не дагодзіш! Я трымаюся грыгарыянскага календару і лічу, што мы павінны быць з Еўропай у святкаванні святаў і г.д.*

*Таксама мяне вельмі цікавіць ордэн базыльянаў. Ці ёсць гэты ордэн у Беларусі? Мне б вельмі хацелася, каб гэты ордэн шырока працаваў у Беларусі. Распавядзіце, калі ласка, пра ордэн базыльянаў болей!*

*З пашанай*

**Алесь Чорны**

*г.Гомель*



*Шаноўны святар а.Ігар!*

*Дзякуй Вам вялікі за падтрымку духоўнай літаратурай, якую вы мне даслалі. Дзякуй Вам за газету «Царква», якую з задавальненнем чытаю.*

*Я каталік. Я вельмі ўдзячны Вам і ўсім з Вашага асяроддзя, хто падтрымаў мяне.*

*Я ведаю, Бог з намі, праўда з намі, і перамога будзе нашай. Я ўсё вытрымаю, а зараз яшчэ маю магчымасць маліцца, дзякуючы Вам. Можа, гэта смешна, але дзякуючы турме я стаў больш чысты душою, з'явілася сапраўдная Вера.*

*Яшчэ раз дзякуй Вам!*

*Жыве Беларусь!*

**Аляксей Шыдлоўскі**

*220079 г.Менск, вул.Кальварыйская, 36, УЖ 15/1, п/с 35/21*

# «Жніво багатае, а работнікаў мала»

«Жніво багатае, а работнікаў мала»,— на нашу думку, гэтыя евангельскія словы датычацца не толькі пакліканняў да святарскага служэння. Яны звернуты да кожнага хрысціяніна, бо ўсе мы павінны быць апосталамі сваёй веры. Такімі апосталамі ў наш час мусяць быць катэхеты, якія сёння вельмі патрэбныя Грэка-Каталіцкай Царкве ў Беларусі. Катэхет можа несці Божае Слова ўсім: дзецям, моладзі, дарослым. Працуючы ў парафіяльнай нядзельнай школцы ў Магілёве, мы сапраўды адчулі вялікую патрэбу людзей у разуменні, прыняцці і прымяненні Божага Слова. Але разам з гэтым мы адчулі патрэбу пашырэння нашай адукацыі.

На жаль, у Беларусі пакуль што немагчыма атрымаць катэхетычную адукацыю, накіраваную менавіта на вывучэнне і пазнанне свайго ўсходняга абраду. Таму найбольш рэальным шансам для нас з'яўляюцца катэхетычныя курсы на Украіне ў Львове.

Беларуская і ўкраінская грэка-каталіцкая моладзь каля святой крыніцы ў Зарваніцы

Даведаўшыся падрабязней пра ўмовы паступлення, мы накіраваліся туды ў ліпені гэтага году. Тэрмін навучання на курсах — 4 гады. У канцы навучання пасля выпускных іспытаў выдаецца дыплом катэхета. Заняткі адбываюцца летам, на працягу аднаго месяца. Сярод прадметаў, якія нам выкладалі,— літургіка, Святыя Тайны, практычная катэхізацыя, хрысціянская этыка і іншыя. Жадаючыя маглі таксама наведваць дадатковыя лекцыі па іканаграфіі і катэхізацыі моладзі. Што да ўмоваў пражывання, то ў іншагароднік не было з гэтым ніякіх праблемаў, бо ўсе забяспечваюцца інтэрнатам. Таму нічога не перашкаджала нам засяродзіцца на вучобе. На нашым першым курсе было каля 90 чалавек. Сярод іх былі хрысціяне з розных краінаў — з Польшчы, Расеі, Сербіі. З Беларусі, на жаль, было толькі два чалавекі.

Кожны год падчас навучання праводзяцца трохдзённыя рэкалекцыі ў розных хрысціянскіх цэнтрах Украіны. У 1998 годзе яны адбываліся ў Зарваніцы, славутым на ўсю краіну месцы, дзе знаходзіцца цудатворная крыніца і абраз Маці Божай. Як вядома, 1998 год абвешчаны годам Святога Духа, таму і рэкалекцыі ў Зарваніцы былі прысвечаны менавіта Святому Духу. Разам з усімі мы прынялі ўдзел у розных выступленнях, спявалі беларускія песні і нават мелі магчымасць узнесці свае малітвы за беларускі народ перад цудатворнай іконай Маці Божай.

Мы атрымалі вялікія ўражанні ад гэтае паездкі: яшчэ ніколі не даводзілася быць сярод такой вялікай колькасці хрысціянскай моладзі, тым больш грэка-каталіцкай, бачыць іх актыўны ўдзел у жыцці сваёй Царквы, прагненне да апостальскай працы. Разам з гэтымі ўражаннямі мы адчулі, чаго сапраўды не хапае нам. Мы бачылі ініцыятыву дабра, якая выходзіць з сэрцаў людзей, якая гуртуе моладзь на шляху адраджэння Грэка-Каталіцкай Царквы. Мы заўважылі, што кожны тут пачынае з сябе, няма людзей, якія стаяць з боку ад гэтай агульнай справы. Таму адчуваецца больш рэальная прысутнасць жывога Хрыста.

Таксама мы атрымалі шмат запрашэнняў да беларускай моладзі, якая жадае весці апостальскую працу сярод людзей, прыняць удзел у навучанні на катэхетычных курсах.

**Наталля Вашрова, Тацяна Галіцына**

*г.Магілёў*



*Прывітанне Вам, шаноўны айцец Ігар! І ў Вашай асобе ўсёй рэдакцыі газеты «Царква»!*

*Піша вам чалавек, лёс якога ў Царкве (але не ў Грэка-Каталіцкай), на жаль, даволі няпросты. Але ж словы паводле сьвятога Паўла: «Так і вы, дбаючы пра дары духоўныя, старайцеся ўзбагаціцца імі дзеля настаўлення царквы» (1 Кар 14, 12) больш за ўсё хвалявалі мяне з самага майго дзяцінства. Таму мне вельмі спадабаліся словы ў нарысе Кірылы Невяроўскага «Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква: сучасны стан, перспектывы развіцця» («Царква», № 1 (16), 1998), дзе ён адзначае: «Паўсюдная Царква ёсць чымсьці значна большым, чым проста сумаю памесных Цэркваў». Калі б можна было б дадаць ад сябе, то, на маю думку, гэтыя словы можна аднесці да рэлігійнага сумлення найперш беларусаў. Бадай што гісторыя развіцця беларусаў як нацыі, на мой погляд, вельмі таму адпавядае.*

*Даруйце, што адразу не назваўся — Васілеўскі Алег, жанаты, скончыў адно з творчых аддзяленняў мастацкай вучэльні ў Міры (Гарадзенская вобл.), потым быў панамаром у храмах Менскай епархіі, маю незавершаную (стаў інвалідам па зроку) адукацыю Менскага духоўнага вучылішча пры мітрапаліце Філарэце. Бацька мой паляк, маці — беларуска. Хрысцілі мяне ў праваслаўнай царкве.*

*Хачу замовіць у Вас (праз рэдакцыю) малітоўнік «Цябе, Бога, хвалім», царкоўны каляндар і апошні нумар газеты «Царква».*

*Хай абароніць вас наш Міласэрны Госпад! Дзякую вам за ўвагу.*

*З павагай да Вашага, айцец Ігар, святарства*

**Алег Васілеўскі**

*г.Слуцк*



*Слава Ісусу Хрысту!*

*Паважаны а.Ігар! Вялікі дзякуй за газеты «Царква», дасланыя на мой адрас: я з задавальненнем іх атрымліваю і распаўсюджваю ў нашым мясцовым касцёле Узвышэння Крыжа Гасподняга. Нядаўна споўніўся год, як яго асвяціў кардынал Казімір Свёнтэк, які і прыязджаў на юбілей, а таксама госці з Польшчы. 14 верасня было храмавае свята, так што апошні нумар газеты «Царква» супаў з нашым святам. Дзякую таксама і ад імя нашага пробашча, ён з цікавасцю знаёміцца з усімі артыкуламі газеты.*

*Я таксама ўніят, але, на вялікі жаль, у нашым горадзе няма ні царквы, ні абшчыны нашага абраду. Але, на маю думку, не гэтае галоўнае ў маім жыцці. Галоўнае — сустрэча, спатканне з Хрыстом, і я Яго знайшоў у касцёле, астатняе ўсё прыкладзецца.*

*Яшчэ раз вялікі дзякуй, думаю, што нашае знаёмства будзе працягвацца. Амін.*

**Алег Шаўкуноў**

*г.Светлагорск*

*P.S. У адным з нумароў газеты «Царкоўнае слова» (праваслаўная газета) быў надрукаваны артыкул супраць уніяцкай веры, падпісаны маім імем. Хачу, каб ведалі, і прызываю ў сведкі Бога, што я гэты артыкул не пісаў. Так, у мяне было непаразуменне з асобнымі грэка-католікамі, але я не хачу сёння кагосьці з іх абвінавачваць. Што было, то, было. Суддзя нам Бог. Можа, вы і не чыталі той артыкул, але такім чынам хачу апраўдацца хоць бы перад самім сабою. Не мая віна ў тым, што з мяне не атрымалася манаха — на тое была воля Божая. Дарэчы, я атрымаў ліст ад а. Себасцьяна (ігумена Свята-Успенскай лаўры ў Уніве на Украіне), у якім ён не вінаваціць мяне ў маім ад'ездзе і сведчыць, што я не звязаны ніякімі абетамі, бо я даваў толькі тымчасовае абяцанне. Ён піша, што больш карысці я прынясу свайму гораду і сям'і, застаючыся тут, у цяперашнім свабодным стане душы, не звязанай ніякімі абетамі. Ёсць касцёл, ёсць Бог, ёсць Імша, на якой абавязаны прысутнічаць.*

## Малітва за вязняў

Госпадзе Ісусе Хрысце, Божа наш, Ты, што святога апостала Пятра ад кайданаў і цямніцы без усякае шкоды вызваліў, прымі, пакорна просім Цябе, малітвы гэтыя за слугу Твайго ..............., што ў вязніцы сёння. Дзеля малітваў ягоных пакорлівых усемагутнай Тваёю ўладаю, Чалавекалюбча, выратуй яго з гэтага жахлівага стану і на волю вывядзі. Амін.

**Паола Вагнэр**

# Тата, а дзе жыве Бог?

***7. ТАТА, А ВОСЬ ЁСЦЬ ЛЮДЗІ, ЯКІЯ НЕ ВЕРАЦЬ, ШТО ІСУС — СЫН БОЖЫ.***

Так, гэта праўда, Аленка.

Язэп, Марыя і Ісус жылі ў краіне Ізраіль, а ўсе людзі ў той краіне — іх называюць яшчэ «габрэі» — чакалі, што ад Бога прыйдзе Збаўца. Яны спадзяваліся, што Ён выганіць з зямлі Ізраільскай іхніх ворагаў-захопнікаў, рымлянаў. Калі Ісус вырас і было сказана, што Ён і ёсць той, Богам пасланы Збаўца, некаторыя людзі паверылі ў гэта і хадзілі за Ім. Яны сталіся Ягонымі вучнямі. Ісус сам казаў пра сябе, што Ён — Збаўца, што прыйшоў, каб збавіць людзей і вызваліць іх ад граху. А каб Яму паверылі, аздараўляў хворых, зрабіў шмат цудаў, а некалькіх людзей нават уваскрасіў з мёртвых. Але большасць габрэяў у Яго не паверылі, таму што Збаўцу ўяўлялі сабе, як кагосьці, хто сваёй моцай пераможа рымлянаў, а гэтага Ісус не зрабіў. Яшчэ і сёння габрэі чакаюць, што прыйдзе Збаўца іхнага народу.

Таксама і мусульмане не вераць, што Ісус — Сын Божы. Мусульмане вераць у Адзінага Бога, але за Богам пасланага настаўніка ўважаюць Магамета. Гэты чалавек шмат гадоў таму жыў у арабскай пустэльні. Распавядае пра яго святая кніга мусульманаў — Каран. Там напісана, што Магамет аднаго разу ўбачыў анёла, а той даў яму кнігу, дзе падрабязна напісана, што Бог хоча ад людзей.

Акрамя габрэяў і мусульманаў ёсць яшчэ шмат людзей, якія вераць у Бога, але не вераць, што Ісус — Сын Божы. Але шмат ёсць і тых, што ўвогуле не вераць у існаванне Бога.

*Пачатак у № 1-3, 1998 г.*

Тых, хто паверыў у Ісуса, называюць хрысціяне. Выводзіцца гэта ад грэцкага слова Хрыстос, што значыць Памазаны, Богам пасланы Збаўца. Мы, хрысціяне, верым, што Госпад наш Ісус ёсць Хрыстос.

***8. ТАТА, А ХТО Ж ТАДЫ МАЕ РАЦЫЮ?***

Госпад наш Ісус Хрыстос аднойчы хацеў сваім слухачам задаць падобнае пытанне: «Хто сапраўды робіць тое, што хоча Бог?» Але на пачатку распавёў такую вось гісторыю.

Адзін вінаградар меў два сыны. У ягоным вінаградніку было вельмі шмат працы, але вінаградар быў ужо стары і зусім не меў сілаў. І тады сказаў сваім сынам: «Зрабіце гэтую працу за мяне, бо я ўжо зусім не маю сілаў». Першы сын адразу пачаў адгаворвацца, а ўрэшце сказаў, што ён не хоча і не пойдзе. Лепей пойдзе з сябрамі пагуляць. Аднак пазней, падумаўшы, зразумеў, які ягоны бацька стары і стомлены. Пашкадаваў, што так сказаў, пайшоў у вінаграднік і працаваў там цэлы дзень. Другі сын адказаў бацьку: «Вядома, тата, зараз жа пайду працаваць». Але, калі выйшаў з пакоя, адразу ж забыўся на тое, што сказаў і не крануў ані пальцам.

Калі Ісус распавёў сваім вучням гэтую гісторыю, запытаўся іх: «Які з дваіх сыноў выканаў волю бацькі?» Пэўна, усе адказалі, што першы сын.

Кожны чалавек — ці хрысціянін, ці мусульманін, ці веруючы габрэй альбо і няверуючы чалавек — можа паводле сваіх сілаў і свайго пазнання (розуму) выконваць Божую волю. Бог любіць усіх людзей і Ісуса паслаў збавіць усіх людзей ад граху. Госпад наш Ісус Хрыстос сапраўды — адзіны Збаўца для ўсіх.

Мы, хрысціяне, верым, што Ісус ёсць Сын Божы, што ў Ім ёсць поўня праўды, і што мы сустрэнемся з Ім па канцы свайго жыцця, а калі ўбачым Яго, то будзем так блізка з Ім, як мы зараз з табой, а можа, яшчэ бліжэй.

*Пераклаў з чэшскай*

**дыякан Андрэй Абламейка**

## КРЫЖАВАНКА




**Па вертыкалі:** 1. Зварот да Бога. 5. Бесцялесная істота. 6. Тое, што дае нам Бог. 7. Брат апостала Пятра.

**Па гарызанталі:** 2. Той, хто судзіў Хрыста. 3. Хрыстапрадаўца. 4. Духоўны гімн Усходняе Царквы.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў папярэднім нумары «Царквы»:**
1. Пасха. 2. Месія. 3. Абрам.
4. Язэп. 5. Прарок. 6. Марк. 7. Каталік.


# Увага!




Беларускі малітоўнік для вернікаў
**"Цябе, Бога, хвалім"**
(160 с.), папраўлены і дапоўнены.
Малітоўнік можна набыць у грэка-каталіцкіх парафіях альбо замовіць у рэдакцыі "Царквы".
КОШТ З УЛІКАМ ПЕРАСЫЛКІ — 60 000 РУБЛЁЎ.



**Царква**
*грэка-каталіцкая газета*
№ 4 (19), 1998

**Заснавальнік і выдавец:** Берасцейская грэка-каталіцкая парафія святых братоў апосталаў Пятра і Андрэя
**Пасведчанне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 27 лістапада 1997 году
**Галоўны рэдактар:** святар Ігар Кандрацьеў
**Рэдактар:** Ігар Бараноўскі
**Падпісана ў друк:** 7снежня 1998 году, а 9-30
**Паліграфічныя работы:** ПП "Мэджык", г.Мінск вул. В. Харужай, 1
*Газета выдаецца на ахвяраванні. Шчыра дзякуем за ахвяру!*
***Наш разліковы рахунак № 3015200210017 у Берасцейскім філіяле № 2 КБ "Абсалютбанк", МФО 150501242***
Аб'ём — 2,0 ул.-выд.аркушы. Наклад 1500. Замова № 1464



**Адрас рэдакцыі:**
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасце, Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82